# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 2 (2248) 9 студзеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



Бадай што, найважнейшай падзеяй апошніх дзён 1991 года, якая будзе ўплываць на ўсё наша жыццё і ў годзе 1992-м, стала нарада кіраўнікоў 11 суверэнных дзяржаў былога СССР, што адбылася ў Мінску 30 снежня. Калі прасочваць плынь нашага жыцця, прынамсі, у двух пластах, верхнім — урадавым і ніжнім — народным, то можна заўважыць, што і «вярхі», і «нізы» ў гэты дзень аб'ядноўвалі адны і тыя ж пачуцці. Праўда, з розных прычын.

Мінчане, на вачах якіх праязджаў па перакрытым для руху транспарту праспекце цяпер ужо не Леніна, а імя Скарыны картэж машын з кіраўнікамі дэлегацый, праклінаючы на чым свет стаіць Гарбачова, таўкліся ў даўжэзных чэргах з трывогай і надзеяй у сэрцы: ці ўдасца купіць хоць бохан хлеба да навагодняга стала! З такой жа трывогай і надзеяй прыбылі на нараду і дэлегацыі краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў, бо ўжо насіўся ў паветры прывід разладу і нараджаліся сумненні, ці не стане гэта нарада ў Мінску апошняй!

Цяжкая спадчына па Савецкім Саюзе нарадзіла зашмат праблем. Таму такая выбоістая дарога, па якой марудна прасоўваецца крок па кроку наперад СНГ. Не было ў Мінску ды, відаць, і не будзе ўжо нідзе даўнейшага адзінадушша — былі спрэчкі, здавалася б, непрымірымыя пазіцыі бакоў, былі, нарэшце, і разумныя кампрамісы. З 10 пунктаў парадку дня фактычна разгледжаны і прыняты толькі 2. Але спраўдзілася ўсё ж надзея: Садружнасць удалося захаваць.

НА ЗДЫМКУ: у час нарады.

## «...ПАКУЛЬ МАЮ ДЫХАННЕ»

Антон Жэбрак нарадзіўся 27 снежня 1901 года ў вёсцы Збляны Зэльвенскай воласці Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні ў сялянскай сям'і. З пачаткам першай сусветнай вайны сям'я Жэбракаў вымушана была пераехаць у Тамбоўскую губерню і жыла там выпадковымі заробкамі. Няпроста складваўся лёс юнака. Як адзначаў Антон Раманавіч у сваім жыццяпісу: «Матэрыяльная незабяспечанасць бацькоў прымусіла мяне рана ўзяцца за самастойную працу. Будучы яшчэ вучнем сярэдняй школы, у канікулярны час я працаваў у 1916 годзе бетоншчыкам на Мыцішчынскім бетонавым заводзе (каля Масквы), у 1917-м — на лясных распрацоўках. З цяжкасцю атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1918 годзе бацька і маці памерлі».

Нягледзячы на мару вучыцца далей, прыйшлося ўладкоўвацца на працу, а потым служыць у Чырвонай Арміі. Толькі восенню 1921 года А. Жэбрак змог паступіць на агранамічны факультэт Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева, якую закончыў у 1925 годзе. Пасля напісання дыпломнай работы быў пакінуты пры кафедры для падрыхтоўкі да прафесарскай дзейнасці і адначасова стаў слухачом аддзялення прыродазнаўства Інстытута чырвонай прафесуры. У 1929 годзе абраны дацэнтам Ціміразеўскай акадэміі кафедры генетыкі і селекцыі раслін. У 1930—1931 гадах знаходзіўся ў замежнай навуковай камандзіроўцы ў Германіі і ЗША, прайшоў спецыялізацыю па генетыцы і цыталогіі ў лабараторыі прафесара Моргана пры Каліфарнійскім тэхналагічным інстытуце, стваральніка храмасомнай тэорыі спадчыннасці.

Пасля вяртання з-за мяжы працаваў прафесарам, загадчыкам кафедры спачатку Акадэміі сацыялістычнага земляробства, а потым Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі.

У той час генетыка была параўнальна маладою навукай, і яна цалкам захапіла Жэбрака. У выніку назіранняў і доследаў, пачатых яшчэ ў ЗША, ён робіць вывад аб уплыве ўзросту на стан генатыпу, што стала асновай для абароны ім у студзені 1936 года доктарскай дысертацыі. Яго імя становіцца шырока вядомым сярод вучоных-біёлагаў краіны.

Хаця з сярэдзіны 30-х гадоў пачалі набіраць сілу Т. Лысенка і яго падручныя, савецкая генетыка была на самых перадавых пазіцыях у свеце і ў сузор'і славутых імён было і імя Антона Жэбрака. У гэты час ім быў напісаны шэраг тэарэтычных артыкулаў, у якіх глыбока абгрунтоўвалася матэрыялістычная канцэпцыя генетычнай навукі. Асабліва значныя былі даследаванні Жэбрака ў галіне генетыкі пшаніцы. Яму пашанцавала вывесці новыя сарты пшаніцы з буйнымі зярнятамі, устойлівыя ў неспрыяльных умовах. Вынікі даследаванняў вучонага друкуюцца ў СССР і за мяжой.

Пасля таго як Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР, А. Жэбрак летам 1940 года арганізаваў сюды экспедыцыю па збору калекцыі злакавых раслін і сам узначаліў гэтую экспедыцыю, нават пабываў на радзіме, у мясцінах, дзе прайшло яго дзяцінства. Ім былі наладжаны цесныя сувязі з беларускімі вучонымі, сярод якіх ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам і таму ў красавіку 1940 года быў абраны акадэмікам Акадэміі навук БССР і членам яе прэзідыума. Антон Раманавіч паспеў вывезці з Беларусі яшчэ да захопу яе немцамі шэраг вельмі каштоўных папуляцый мясцовых пшаніц, у гады Вялікай Айчыннай вайны адселекцыяніраваў іх і размножыў на доследных палях ЦСГА ў Маскве, а пасля

(Заканчэнне на 7-й стар.).

Людская спагада гоіць раны. Нашы чарнобыльскія раны гоіць спагада і дабрачынная дапамога дзяржаў, грамадскіх арганізацый і паасобных людзей ва ўсім свеце. Лекі, медыцынскае абсталяванне, дзіцячае харчаванне і многае іншае, што вызначаецца двума словамі — гуманітарная дапамога, атрымлівае Беларусь з Германіі, Аўстрыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Аўстраліі, Японіі ды іншых краін.

Што, акрамя падзякі, можа выказаць наш народ! Магчыма, некалі ў нас збудуюць такі помнік удзячнасці, дзе будуць напісаны імёны ўсіх ахвярадаўцаў. А пакуль што гэтыя імёны ў нашых сэрцах і памяці. І адно з іх — Пол Моар. Калі б у Беларусі быў такі звычай—выбіраць чалавека года, то можна быць упэўненым, што гэтым чалавекам 1991 года быў бы названы Пол Моар. Яго дабрачынная дзейнасць уражвае: так можа рабіць толькі чалавек, для якога біблейская запаведзь — «палюбі бліжняга свайго, як сябе самога» мае сэнс у канкрэтных учынках і дзеяннях. (Гутарку з Полам Моарам чытайце на 5-й стар.).




Гэтыя медыкаменты і аднаразовы інструментарый — гуманітарная дапамога Беларусі ад урада ЗША і прэзідэнта Буша.

НАВАГОДНЯЕ ВІНШАВАННЕ

# ДЫК ШТО Ж НАС ЧАКАЕ?

Шчаслівае і добрае жыццё ў рамках Садружнасці паабяцаў свайму народу Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, выступаючы з Навагоднім віншаваннем перад камерамі Беларускага тэлебачання 31 снежня, за 15 хвілін да поўначы. Ён перакананы, што на сустрэчы кіраўнікоў 11 дзяржаў Садружнасці, якая прайшла 30 снежня ў Мінску, знойдзены выхад з тупіка.

Мы разам з народамі былога Савецкага Саюза прызвычаіліся жыць разам, побач, нам не трэба граніц, якія б аддзялялі народы адзін ад другога, але нам трэба незалежнае існаванне і нам патрэбна магчымасць развіваць сваю прамысловасць, сваю гаспадарку, як хоча кожная незалежная дзяржава, сказаў С. Шушкевіч.

Безумоўна, гэта толькі пачатак шляху да разумных, гарманічных узаемаадносін паміж нашымі незалежнымі дзяржавамі. Вядома, нават самыя эфектыўныя рашэнні не могуць аўтаматычна, у адзін момант, зняць цяжкія праблемы. Наперадзе — вялікая і няпростая дарога.

Гаворачы пра развіццё падзей 1991 года, нельга не звярнуць увагу на такі парадокс: значны рывок уперад, прагрэс у палітыцы і яўнае адставанне ці нават таптанне на месцы ў сацыяльна-эканамічным кірунку. Прыкра і балюча ў гэты святочны вечар нават успамінаць аб тым, што мы — кіраўнікі Рэспублікі Беларусь — паднеслі свайму народу такі навагодні падарунак, як павышэнне цэн на прадукты харчавання, тавары масавага ўжытку.

Але для таго каб перайсці да рыначнай эканомікі, да новага прынцыпу яе арганізацыі, мы павінны гэтыя цэны адпусціць, а гэта значыць — павысіць. Іншага шляху няма, таму што адсутнасць адзінай цэнавай палітыкі, рэгуляванне яе цэнтралізаванымі метадамі дазваляе цёмным сілам, цемрашалам ценявой эканомікі нажывацца на горы і на добрых пачуццях людзей. Трэба рэгуляваць гэтую сітуацыю эканамічнымі спосабамі.

Я хацеў бы яшчэ раз заўважыць, што гэта час нялёгкі, але пераломны, таму што за гэтым жыццё абяцае быць лепшым. І мы павінны зрабіць усё, каб менавіта такім яно і было.

На жаль, існуе многа баек аб тым, чаму мы жывём дрэнна. Адна з гэтых баек такая. Раней, калі пры ўладзе былі камуністы, усё было ў крамах, усё можна было купіць. А цяпер,калі да ўлады прыйшлі дэмакраты, няма ніякага парадку. І таму зразумелая выснова — далоў дэмакратаў.

Гэта вельмі шкодная байка. Справа ў тым, што мы пакуль толькі дэкляравалі пэўныя пазіцыі дэмакратыі, абвясцілі ідэі, паказалі, як мы хочам пераўтварыць грамадства. А ўсё тыя ж наменклатурныя сілы, якія фактычна валодаюць шырокай уладай у нашым грамадстве, у нашай краіне, у нашай незалежнай Беларусі, перашкаджаюць новаўтварэнню.

Паглядзіце вакол сябе: ці сталі рабочыя ўладальнікамі прадпрыемстваў, ці атрымалі яны ў прыватную ўласнасць сродкі вытворчасці? Не!

Паглядзіце вакол сябе: ці атрымалі сяляне зямлю ў прыватную ўласнасць? Не!

Больш таго, выканаўчыя ўлады ўсіх узроўняў перашкаджаюць рэалізацыі законаў, прынятых Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Асабліва перашкаджаюць улады сяла атрымаць нам зямлю і плённа працаваць на ёй.

Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на тое, сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета, што чалавек без уласнасці — гэта раб. Ён не можа працаваць выдатна, ён не можа працаваць настойліва, ён не можа працаваць эфектыўна. Значыцца, трэба даць чалавеку магчымасць стаць гаспадаром, уласнікам.

Я думаю, што 1992 год будзе годам карэннага пералому ў гэтым накірунку, што мы будзем будаваць сапраўды рыначную эканоміку і атрымаем рэальнае паляпшэнне ў нашым жыцці. Расказваючы пра ўсё гэта, я добра ўсведамляю: далёка не ўсе прытрымліваюцца думкі, што менавіта такім шляхам трэба ісці. Нас вельмі доўга прывучалі да другога шляху, але хацеў бы звярнуць вашу ўвагу, што грамадская думка выпрацоўваецца шляхам спрэчак, шляхам супастаўленняў, параўнанняў. І я перакананы, што наш шлях правільны, менавіта той, аб якім я гаварыў. Могуць быць і іншыя думкі. Калі выпрацоўваецца агульная, наш доўг, доўг дэпутатаў усіх узроўняў, праводзіць яе ў жыццё. Я перакананы, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Саветы ўсіх узроўняў будуць працаваць такім чынам, каб жыццё беларусаў рэальна палепшылася.

Кіраўніцтва рэспублікі прыклала многа намаганняў, каб не трапіць у той катастрафічны стан, у якім знаходзяцца нашы суседзі. Нам удалося ўтрымаць паказчыкі прамысловасці, многія эканамічныя паказчыкі, даходы на душу насельніцтва і зрабіць гэта лепш за суседзяў. Але пакуль што, нягледзячы на вялікія дасягненні ў палітычным жыцці, у галіне дэмакратыі, мы, на жаль, не можам нічога добрага вам сказаць пра поспехі ў эканоміцы, у сацыяльнай сферы.

У заключэнне С. Шушкевіч заклікаў сваіх суайчыннікаў не ўпадаць у роспач. Ёсць добрае прыслоўе нашых дзядоў і бабуль: «Мы ж не якіянебудзь зломкі». Я хацеў бы сказаць, што мы не толькі не зломкі, мы народ, які не стаў на калені, хаця на працягу двухсот гадоў і нават болей нас рабавалі і прыгняталі. Мы засталіся беларускім народам, мы засталіся людзьмі і можам сёння згуртавацца і паказаць, што здольны самі ўладкаваць сваё жыццё.

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ПАСТАЯННЫЯ ПРАДСТАЎНІКІ

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыняў указы аб пастаянных прадстаўніках пры міжнародных арганізацыях у Вене і пры ЮНЕСКА ў Парыжы. Рэспубліку Беларусь у Вене будзе прадстаўляць Аляксандр БУБЕН, а ў Парыжы — Ніна МАЗАЙ. Аляксандр Бубен да гэтага працяглы час працаваў на дыпламатычнай рабоце. Ніна Мазай—вядомы дзяржаўны дзеяч, была намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР.**

**Дасюлешні прадстаўнік пры міжнародных арганізацыях у Вене Віктар Баравікоў пераведзены на іншую работу, а Віктар Калбасін, прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА, пайшоў на пенсію.**

ЗАЯВА СОИМА БНФ

## ПАСТАЯЦЬ ЗА СВАБОДУ

**Сойм Беларускага Народнага фронта «Адраджэнне» выступіў з Заявай, у якой абвінавачвае ўрад Рэспублікі Беларусь і Вярхоўны Савет у бяздзейнасці і безыніцыятыўнасці ў вайсковым пытанні. Не створана беларускае войска, Рэспубліканская гвардыя, памежная варта. І гэта ў той час, калі ўтвараюць свае ўзброеныя сілы Расія, Украіна, краіны Балтыі.**

**БНФ трывожыць, што на тэрыторыі Беларусі фактычна прысутнічае армія іншай дзяржавы — Расійскай Федэрацыі. Валодаючы манаполіяй на эмісію рублёў, Расія будзе плаціць заработную плату быломy савецкаму войску, што знаходзіцца ў нашай дзяржаве. А карміць яго за гэтыя пустыя рублі давядзецца нашаму народу. На думку БНФ, так можа адбыцца ціхая акупацыя Беларусі.**

**Але дзяржава не можа быць безабароннай. БНФ не стане стрымліваць натуральную ініцыятыву людзей да самаабароны і самазахавання і будзе спрыяць, каб нацыянальная гвардыя ўтваралася законным шляхам. Людзі Беларусі, гаворыцца ў Заяве, знойдуць магчымасць пастаяць за сваю свабоду, незалежнасць і Бацькаўшчыну.**

У БЫЛЫХ КАЗАРМАХ

## «СПАДЧЫННАСЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ»

**Міністэрства абароны былога СССР перадало Рэспубліцы Беларусь у бясплатнае карыстанне будынкі і збудаванні, узведзеныя за кошт сродкаў савецкага боку ў ваенных гарадках Рэспублікі Польшча і Венгерскай Рэспублікі.**

**Распараджэннем урада Беларусі два ваенныя гарадкі перададзены фонду развіцця і дзейнасці Міжнароднага аздараўленча-рэабілітацыйнага цэнтра для дзяцей Беларусі «Спадчыннасць Чарнобыля». Усе будынкі і збудаванні ваенных гарадкоў будуць выкарыстаны для стварэння на іх базе сумеснага венгера-беларускага прадпрыемства па аздараўленню і рэабілітацыі дзяцей і дарослага насельніцтва Беларусі, якое пацярпела ад выбуху на Чарнобыльскай АЭС.**

РБ І СВЕТ

## АФІЦЫЙНАЕ ПРЫЗНАННЕ

**Па звестках, атрыманых у прэс-цэнтры Міністэрства замежных спраў, у мінулым годзе Беларусь афіцыйна прызналі больш за 15 дзяржаў. Сярод іх Швецыя, ЗША, Германія, Швейцарыя, Нарвегія, Іран, Паўднёвая Карэя, Румынія, Кітай, Фінляндыя, Коста-Рыка, Чэхаславакія і Балгарыя. Не лічачы, вядома, рэспублік былога Саюза. Аб сваёй гатоўнасці прызнаць незалежнасць Беларусі ў 1992 годзе заяўляе большасць краін свету. Напрыклад, па звестках МЗС, 9 студзеня чакаецца прызнанне з боку Аўстрыі.**

**На працягу бліжэйшых некалькіх месяцаў плануецца адкрыць у Мінску консульства ФРГ. Што тычыцца Злучаных Штатаў Амерыкі, то прэзідэнт гэтай дзяржавы Джордж Буш накіраваў асабістае пасланне кіраўніку беларускага парламента Станіславу Шушкевічу, у якім паведаміў, што пасол ЗША ў Беларусі будзе назначаны ў бліжэйшы час. У тым жа пісьме прэзідэнт ЗША просіць назначыць пасла нашай рэспублікі ў ЗША.**

ПАГРАНІЧНЫЯ ЗНАКІ

**Рэаліі нашага жыцця такія, што паняцці «таможныя пасты», «прапускныя пункты» становяцца ўсё больш звыклымі. Там, дзе яшчэ зусім нядаўна суседзі з дзвюх рэспублік, не задумваючыся, чыя зямля, хадзілі адзін да аднаго ў госці, усё больш ясна пазначаецца няхай пакуль і не пракладзеная пагранічная паласа. А раз мяжа — павінны быць на ёй і адпаведныя знакі.**

**Распрацоўкай праектаў пагранічных знакаў Рэспублікі Беларусь на асноўных аўтамабільных дарогах заняты ў інстытуце «Белрэмдарпраект».**




**НА ЗДЫМКУ: з макетамі пагранічных знакаў рэспублікі начальнік архітэктурна- дызайнерскай майстэрні інстытута А. САРДАРАЎ.**

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ



**Якія ж прыгожыя хусткі, што ствараюцца майстрамі жывапісу эксперыментальнай мастацкай майстэрні «Мілана» ў Мінску! З тонкага шоўку, распісаныя дзівоснымі ўзорамі, яны кожнай жанчыне да твару. Каму ж пашчасціла стаць уладальніцамі такой прыгажосці, могуць упэўнена лічыць свой убор непаўторным. Тыражуюцца малюнкі хустак вельмі невялікай колькасцю — не больш дваццаці. А попыт на іх вялікі як у модніц нашай краіны, так і за мяжой.**

**НА ЗДЫМКУ: хустка работы мастачкі І. СУЛІМАВАЙ.**

ІНТЭРВ'Ю З ДАНЧЫКАМ

## ВІНШУЮ З КАЛЯДАМІ!

**— Увесь гэты час, як я ад'ехаў з Беларусі, мару, каб паехаць ізноў. Успамінаю казачнае падарожжа па ўсіх славутых гарадах, цёплыя адносіны нашых цудоўных людзей... Знаёмым ды прыяцелям шлю сардэчныя прывітанні і паспрабую спраўдзіць дадзенае ім абяцанне прыехаць на Беларусь пры першай жа магчымасці. Шчаслівага Новага года ўсім жыхарам маёй Радзімы! І віншую ўсіх з Калядамі. Хай Бог дае вам дабра і душэўнае моцы! Зычу ўсім, хто мяне памятае, аптымізму, — пажадаў Багдан Андрусышын, наш славуты і любімы на Беларусі Данчык.**

**Інтэрв'ю па тэлефоне правяла з ім супрацоўніца «Народнай газеты» В. Аксак.**

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# «ЖЫВІЦЕ БЕЗ МЯНЕ»

Спецыялістаў-выкладчыкаў — і найперш па беларускай мове і літаратуры — катастрафічна не хапала. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Язэп Лёсік і некаторыя іншыя працавалі не складаючы рук. Яны вучылі роднай мове не толькі студэнтаў, але і сваіх калег-педагогаў. Не адразу, але з цягам часу поспех да іх прыйшоў: ужо ў 1927 годзе дзве трэція навучальных гадзін ва універсітэце выкладалася на беларускай мове. Дзверы аўдыторый БДУ шырока адчыніліся перад «мужыцкай» мовай. Мова Францыска Скарыны, якая стагоддзямі прыніжалася да ўзроўню быццам бы выключна народнай вясковай гамонкі, спакваля пачынала гучаць на ўвесь свет. Намаганнямі нешматлікіх выкладчыкаў і, галоўным чынам, яго, Язэпа Лёсіка, быў адкрыты багаты для таго перыяду кабінет беларускай мовы і літаратуры, кніжкамі і дапаможнікамі для якога падзялілася Дзяржаўная бібліятэка Беларусі.

Наша мова выходзіла не толькі на ўсесаюзную, а і на міжнародную арэну. У 1927 годзе на адзін з сусветных кангрэсаў матэматыкаў запрасілі вучонага з Мінска Уладзіміра Дадырку. Якім жа вялікім было здзіўленне свяцілаў матэматыкі, калі Дадырка прачытаў свой даклад на роднай мове. Кіраўнікі кангрэса перакладчыка з беларускай не знайшлі, і, такім чынам, намячаўся канфлікт. Выратаваў сітуацыю сам вучоны з Мінска: на наступны дзень ён паўтарыў сваё выступленне... на нямецкай мове. У навуковым свеце гэта было ўспрынята як сапраўдная сенсацыя...

Універсітэцкія выкладчыкі, іншыя спецыялісты па мове і літаратуры, гісторыі і культуры настойліва шукалі новыя, больш даступныя і масавыя формы і метады павышэння адукацыі народа, пашырэння ягоных ведаў аб родным беларускім краі. Язэп Лёсік прапанаваў арганізаваць у Мінску вышэйшыя курсы беларусазнаўства. Нарком асветы Усевалад Ігнатоўскі, з якім Лёсіка звязвала ўжо вялікая асабістая дружба, ахвотна падтрымаў ідэю, і ў 1922 годзе адбываецца першы выпуск слухачоў курсаў. Выступаючы перад імі на ўрачыстым мітынгу, Язэп Юр'евіч, адзін з любімых выкладчыкаў, натхнёна і шчыра казаў:

— Вы ўжо не тыя, што былі, бо пакаштавалі плоду з таго дрэва, што называецца беларускай справай, беларускім адраджэннем, пазналі таямніцы ўваскрашэння Айчыны нашай— маці-Беларусі. Вашы свечкі запалены, і вы становіцеся апосталамі беларускай справы. Вы скажыце народу беларускаму, што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе... Але бойцеся, каб не пагасла свечка вашая, бо не раз бура захопіць вас у дарозе і не адну навальніцу давядзецца перажыць вам у часе свайго падарожжа. Пільнуйце і бойцеся, каб не пагасла свечка замілавання вашага да сваёй многапакутнай маці-Беларусі. Пільна сачыце за сабой і не забывайце падліваць алею ў свяцільні вашай, каб было з чым сустрэць яе, Беларусь, калі яна прыйдзе судзіць нас ва ўсёй славе сваёй...

Лёсік верыў, што наш народ абавязкова пабудуе некалі сваю незалежную дзяржаву.

Жонка Язэпа Юр'евіча, Ванда Лявіцкая — дачка вядомага пісьменніка Ядвігіна Ш., сведчыла, што спакваля прадметам асаблівых клопатаў і турбот Лёсіка становіцца развіццё роднай мовы. Яна ёсць магутны сродак духоўнага з'яднання нацыі, выяўлення дзяржаўнай свядомасці народа, казаў ён і дадаваў: «Мова становіць усё: нашу палітыку, эканоміку, наш грамадскі лад жыцця».

Як выразна, коратка і дакладна сказана! І як шкада, што разумець гэтую думку мы пачынаем толькі сёння...

Працяг. Пачатак у № 1.

У імя станаўлення, удасканалення і далейшага развіцця беларускай мовы Язэп Лёсік закінуў і«пісанне мастацкіх рэчаў», і распрацоўку гісторыі краю.

У архівах Акадэміі навук БССР, Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна, Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі і ў некаторых мовазнаўцаў і літаратараў мне ўдалося адшукаць дзевяць выданняў навуковых мовазнаўчых прац і літаратурных твораў Лёсіка, выдадзеных у рэспубліцы на працягу 1921—1927 гадоў. Гэта «Беларускі правапіс», «Школьная граматыка беларускае мовы», «Сынтакс беларускае мовы», «Граматыка беларускае мовы. Фонэтыка», «Граматыка беларускае мовы. Морфолёгія», «Практычная граматыка беларускае мовы», «Наша крыніца (кніга для чытаньня)», «Пачатковая граматыка беларускае мовы», «Ня ўсё-ж разам, ягамосьці (апавяданне)». Асаблівай папулярнасцю карысталіся ягоныя вучэбныя дапаможнікі па граматыцы. Выходзілі яны тыражом у некалькі тысяч экземпляраў і распрадаваліся даволі хутка. І не дзіва: беларусы і найперш маладое пакаленне рваліся да ведаў, ім быў неабыякавы лёс роднай матчынай мовы. Яны імкнуліся ведаць яе, для чаго, натуральна, трэба было ўмець правільна чытаць і пісаць па-беларуску. Лёсік бачыў гэта, таму і шчыраваў асабліва ахвотна ў рабоце над падручнікамі для школ. Шмат намаганняў давялося прыкласці яму, каб, гаворачы сучаснай тэрміналогіяй, «прабіць» для «Школьнай граматыкі беларускае мовы» тыраж 25 тысяч экземпляраў, а для «Сынтаксу беларускае мовы» — 10 тысяч. Для таго часу такая колькасць вучэбнай літаратуры з'яўлялася проста неймавернай.

У прадмове «Ад аўтара» да «Школьнай граматыкі беларускае мовы» (Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, Менск, 1926 год) Язэп Лёсік пісаў:

«Задача гэтага падручніка — пазнаёміць нашую масавую школу з тымі фактамі беларускае літаратурнае мовы, што маюць практычнае значэньне, зьвязанае з навучаньнем правапісу, хоць сам правапіс выключан з кнігі, і падручнік, такім парадкам, мае чыста граматычны зьмест. Дзьве першыя часьці (фонэтыка і морфолёгія) высьвятляюць важнейшыя фонэтычныя і морфолёгічныя факты нашае літаратурнае мовы, а трэцяя часьць знаёміць з сынтаксам простага і складанага сказу.

Тэорэтычнаму высьвятленьню гэтых моўных фактаў у больш шырокім абхваце пасьвечаны тры мае іншыя падручнікі — фонэтыка, морфолёгія і сынтакс, што вышлі ў сьвет трыма асобнымі кнігамі і прызначаны для тэхнікумаў і для самаасьветы...»

Кожнаму жадаючаму вывучаць мову Язэп Юр'евіч тлумачыў ясна і даходліва: «Гаварыць — гэта значыць выражаць свае думкі або перажываньні. Выражэньне нашых думак або перажываньняў **словамі** называецца **моваю**. ...Звычайна пад моваю мы разумеем разгавор, які выражаецца **словам** (падкрэслена Лёсікам. — **А. М.**), і толькі такая мова—мова слоўная—становіць прадмет навукі». Гукі і іх падзел, склад і націск, азбука і літары, змена галосных і зычных; граматычны склад слова, падзел яго на часціны мовы; дзеяслоў, назоўнікі, прыметнікі; сказ і ягоны склад — гэтыя раздзелы «Школьнай граматыкі беларускае мовы» Язэпа Лёсіка вучылі многія пакаленні беларусаў.

У «Школьнай граматыцы...» аўтар прыводзіў мноства ілюстрацыйных прыкладаў з твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Тараса Гушчы, Змітрака Бядулі і Каруся Каганца, Францішка Багушэвіча і Дуніна-Марцінкевіча, Старога Уласа і Ядвігіна Ш., Янкі Лучыны і Міхася Кудзелькі, Алеся Гаруна і Канстанцыі Буйло, Цішкі Гартнага і Кандрата Крапівы... Шмат давалася прыкладаў і з народнай творчасці беларусаў.

Адзін з такіх узораў, запісаных, дарэчы, самім Лёсікам, хочацца прывесці поўнасцю. Гэта «Жніўная песьня»:

**Ах ці вышла грозная хмарка**
**З цёмнага лесу —**
**Ах ці вышла!**
**Ах ня вышла грозная хмарка**
**З цёмнага лесу...**
**Ах ня вышла!**
**Толькі выслала грозная хмарка**
**Дробнага дажджу і ціхага ветру —**
**Толькі выслала.**
**Ах прайдзеце, дробныя дажджы,**
**Па полю шырокім, па жыту ядроным —**
**Ах прайдзеце!**
**Ах павявайце вы, ціхія вятры,**
**Па полю шырокім, па жыту ядроным —**
**Ах павявайце!**
**Ах ці вышла наша гаспадынька**
**Да на сваю ніўку —**
**Ах ці вышла!**
**Ах ня вышла наша гаспадынька**
**Да на сваю ніўку —**
**Ах ня вышла!**
**Толькі выслала наша гаспадынька**
**Сынкоў-сакалкоў да нявестак-лябёдак —**
**Толькі выслала.**

Поўнасцю прыводзіць Язэп Лёсік у сваёй «школьнай граматыцы...» і практычна невядомы сённяшняму шырокаму колу чытачоў верш Янкі Купалы «Час»:

**Час склікаці ўжо грамаду**
**На вялікую параду,**
**На вялікі сход!**
**Хай рассудзіць, хай разважыць,**
**Слова цьвёрдае хай скажа —**
**Скажа сам народ!**
**Доўга людзі ўдзень блудзілі,**
**Крыўду, сьлёзы, кроў пладзілі —**
**Усё ня ўмелі жыць.**
**А сягоньня ўжо ня тое:**
**Усходзіць сонца залатое**
**Роўна ўсім сьвяціць.**
**Ходзіць ходырам сьвет цэлы,**
**Сьмела ў бітву йдзе нясьмелы —**
**У бой за лепшы час!**

Гэты твор, думаецца, быў падабраны аўтарам для свайго падручніка зусім не выпадкова. Лёсік усё яшчэ знаходзіўся пад уздзеяннем парываў змагання за волю, за нацыянальнае вызваленне. І «бой за лепшы час» яму па-ранейшаму ўяўляўся па-свойму.

Тут жа і адзін з лірычных вершаў пляменніка Язэпа — Якуба Коласа «Асенні вечар».

**Вые бура. Лес гамоніць,**
**Як на сходзе дзе народ.**
**Вецер хмары так і гоніць;**
**Дождж, і град, і галалёд.**
**На камінку корч палае:**
**Каля печы дзед сядзіць,**
**Бацька лапці папраўляе,**
**Маці ніткі села віць.**
**Вецер вые, ня сьціхае,**
**Дзіка ў коміне шуміць,**
**То заплача, засьпявае,**
**То па стрэсе прабяжыць.**

Сам добры літаратар, ён адчувае народнае слова, схільнасць простых людзей да ўспрымання натуральнага, нязмушанага аповяду.

У тым жа 1926-м другім выданнем Лёсік выдае «Сынтакс беларускае мовы». У прадмове ён пісаў:

«У морфолёгіі галоўнае значэньне маюць формы словазьменнасьці. Паводле гэтага ўвесь слоўны матэрыял беларускае мовы лёгка падзяляецца на дзьве асноўныя групы: словы **зьменныя** і словы **нязьменныя,** або словы з **формай** і словы **бяз формы.** Пад формай слова трэба разумець здольнасьць яго раскладацца на аснову і канчатак (формальную прыналежнасьць) у залежнасьці ад скланеньня ці спражэньня, а таксама ад роду і ліку».

Падручнік складаецца з дзвюх частак: сказ і ягоны склад; формы і віды сказаў і выражэнне часцін сказу і цэлых сказаў.

«Укладаючы першую частку гэтага падручніка, — працягваў Лёсік, — я кіраваўся лепшымі падручнікамі расійскіх граматыстых (М. Пешковский «Русский синтаксис в научном освещении», Д. Н. Овсянико-Куликовский и П. Н. Сакулин «Практический курс синтаксиса русского языка», А. В. Ветузов «Учебник русской грамматики. Синтаксис», Г. Г. Тумим «Грамматика в школе», А. В. Миртов «Грамматика русского языка») і некаторымі іншымі.

У васнову другой часткі, дзе выясьняюцца асаблівасьці беларускае мовы, паложаны ўсім вядомыя працы прафэсара і акадэміка Я. Карскага «Белорусы», том 1, 2, 3, у некаторых мясцох **тэкстуальна,** толькі ў перакладзе па-беларуску.

Што-ж датычыць мяне, як аўтара гэтага падручніка, — сціпла зазначаў Лёсік, — то я зьяўляюся толькі **папулярызатарам.** Як я справіўся з сваім заданьнем — аб гэтым няхай судзіць наша маладая школа».

Беларуская школа прымала кожны падручнік Язэпа Лёсіка з нецярплівасцю і вялікім, неўтаймоўным жаданнем. Атрымаўшы свабодны доступ да навукі, да ведаў, беларус імкнуўся выкарыстаць яго як мага паўней.

У другім выданні «Сынтаксу беларускае мовы» Лёсік зрабіў пераразмеркаванне матэрыялу ў некаторых параграфах, выправіў шэраг недакладнасцей і памылак, да асобных пунктаў даў новыя прыклады, што, на яго думку, «выразьней перадаюць тое ці іншае сынтаксычнае палажэньне».

Тут жа, між іншым, аўтар дадае: «Папраўкі ў тэксьце зроблены паводле ўваг брата майго і настаўніка Антона — старога практычнага пэдагога, за што вялікае яму **дзякуй».**

Цікавая думка даследчыка аб словаўтварэнні. Калі пісьменнікі, сцвярджае Лёсік, «твораць новыя словы, новыя звароты ў мове, то стараюцца пагадзіць іх з духам народнае мовы». І як прыгожа, сапраўды па-беларуску вызначае ён фанетыку, называючы яе **гукаўніцай,** а марфалогію — **формаслоўніцай** (падкрэслена мной. — **А. М.**). Ці не варта нам сёння падумаць над тым, каб аддаць належнае вядомаму вучонаму-мовазнаўцу і вярнуцца ў навуцы да ягоных вызначэнняў—мілагучных, дакладных, зразумелых усім нам? І —па-народнаму правільных.

«Граматыка, — пісаў Лёсік ва «Увагах», — слова грэцкае: панашаму слова «граматыка» значыць «літарніца», г. зн. літарная навука, навука аб літарах, аб пісьме».

І працягваў далей:

«Гэты непраўдзівы погляд на граматыку, як на навуку аб правілах пісьма, перанялі ад грэкаў рымляне, а ад рымлян — уся Эўропа, і такі погляд панаваў аж да нашага часу. Толькі апошнім часам гэты погляд адкідваецца і нават правапіс зусім выключаецца з граматыкі. Граматыка — навука аб фактах мовы, а не аб правілах пісьма. Праўда, граматыка часам (у фонэтыцы) гаворыць пра літары, аб азбуцы, але гэта дзеля таго,што высьненьне фактаў мовы зьвязана з пісьмом. Правапіс — справа ўмоўная, і правапіс можа быць розны — фонэтычны, гістарычны і так званы «этымолёгічны», або спосабу параўнаваньня слоў. У васнову, напрыклад, беларускага сучаснага правапісу паложаны два прынцыпы: фонэтычны для галосных гукаў і этымолёгічны для зычных, а правапіс некаторых паасобных слоў аснован проста на прывычцы, на традыцыі.

Праўда і тое, што на знаёмстве з фактамі мовы звычайна будуецца правапіс, ...але задача граматыкі — ня правапіс і не вымаўленне слоў. Граматыка навучае нас разумець, разьбірацца ў фактах мовы незалежна ад таго, якія практычныя вывады мы з гэтага зробім, і такім парадкам, яна мае агульна-асьветнае значэньне».

Мінуў час. Змяніўся, удасканаліўся (а мо і пагоршыўся — не будзем тут дыскутаваць) правапіс многіх беларускіх слоў. У адных выпадках гэты працэс насіў натуральны, апраўданы характар, у іншых рабіўся пад прымусам, па загаду «зверху»... Несумненна адно: нацыянальны характар беларускай мовы шмат чаго згубіў за апошнія дзесяцігоддзі. Думкі ж. заўвагі і павучанні Язэпа Лёсіка засталіся слушнымі, справядлівымі. І гэта, несумненна, асабліва важна. І не прыслухацца хоць цяпер да Лёсікавых парад і рэкамендацый мы не маем права.

Працуючы над сваімі падручнікамі, Лёсік шмат звяртаўся да першакрыніц, да класікаў беларускай літаратуры, да культурнай спадчыны, нашага народа наогул. Мяркуючы па ягонай мовазнаўчай і небагатай літаратурнай творчасці, ён дасканала ведаў творы Цішкі Гартнага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Максіма Гарэцкага, Янкі Нёманскага, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага, Ядвігіна Ш., Міколы Нікановіча... У так званай «Сялянскай бібліятэцы» Мінска ён знаёміўся з даследаваннямі Грабоўскага «Аб насенні», Хатэнкі «Сарнякі і барацьба з імі», Драгілёва «Шкоднікі нашых палёў», Кацавурава «Угнойванне глебы», «Ячмень, авёс, проса, кукуруза і грэчка», Марозава «Пажніўныя расліны — два ўраджаі з поля», Журыка «Як у Даніі кормяць кароў», Сіцынскага «Як трэба вырабляць масла», Серады «Першая дапамога хворай жывёле», Былінскага «Як ратавацца ад заразы», Фурса «Сухоты і змаганне з імі», Цвікевіча «Як сцерагчыся ад сіфілісу», Зайцава «Падаткі і куды яны ідуць», Лункевіча «Грозныя з'явы і цуды прыроды», Львова «Каменны вугаль», Раманоўскага «Пісьмо і кніга»; а ў «Тэатральнай бібліятэцы—з драмай Родзевіча «Пакрыўджаныя», п'есамі Юрына «Савецкі Чорт», Муйжаля «Жаніх з Піцера», камедыяй Галубка «Суд», п'есамі Гартнага «Лекары і лекі» і «Перамена». Вучоны-мовазнаўца быў добра знаёмы з песнямі і рамансамі М. Равенскага, М. Аладава, Я. Прохарава...

Навошта ўсё гэта было Лёсіку? Асабіста ён лічыў: трэба! Гэтага вымагалі яго асабістыя інтарэсы даследчыка, эрудыта, цікаўнага чалавека. Так ужо выхаваны і загартаваны, Лёсік не мог, ды і не жадаў успрымаць нешта са слоў ці давадаў іншых. Яму да ўсяго карцела дакапацца самому, пачытаць, каб пасля грунтоўна і пераканаўча паразважаць, падумаць, прыйсці да высновы...

Анатоль МЯСНІКОЎ.




241

— Так... Запраўды прыгожа. А мне гэты мітынг падабаецца зусім па іншай прычыне, — задуменна працягнуў Тугоўскі, гледзячы ў цёмную далю. — Таму, што апошні раз я бачыў раскошны будынак, сьцены ў люстэрках, драбіны, засланыя каберцамі, і ў апошні раз сядзеў з вамі.

— Як у апошні раз? Што вы баўтаеце?

Тугоўскі замаўчаў. Ён падумаў: "Сказаць ей усю праўду ці прамаўчаць?"

— Так, праўда, — засьмяяўся ён. — Я крыху займаюся магіяй і магу прадбачыць будучыню. Я чую, што заўтра нешта будзе са мной. Можа быць, захочуць аграбіць, можа нават забіць, але заўтра нешта будзе са мной благое.

— Што вы баўтаеце глупства... Кіньце. А то я пачну зяваць.

Яна стала гутарыць аб выступленьні Крэчэўскага, аб беларускіх міністрах Зайцу й Случаніну й аб тым, як іх абсьмяялі ў толькі што вышаўшым камсамольскім журнале.

Тугоўскі слухаў мала. Ён толькі прыслухіваўся, наколькі яна жыва ўхадзіла ўва ўсю справу, аб якой гутарыла... Наколькі яна ўсё блізка прыймала да сэрца.

— Для мяне вы ўсё ж ткі загадка, — прамовіў ён, — наколькі я ведаю, вы дачка папа й разам з тым крайне левая марксыстка. Я гэтага не разумею.

— Так, — успыхнула яна, і голас яе задрыжэў. — Я дачка папа. Здаецца, гэта нічога ня знача. Ленін быў дваранінам. Усё залежа ад таго, якія абстановы акажуцца рашаючымі і зробяць уплыў на чалавека. Я расла ў абставінах поўнай свабоды. Мой бацька-поп ніколі не хадзіў за мной па сьлядах і ніколі не пярэчыў мне, таму што вельмі любіў

242

мяне. Пры тым трэба зазначыць, што я вырасла й мой ідэал аформіўся ўжо падчас рэвалюцыі. Я вырасла на кнігах Пісарава, Чарнышэўскага, Маркса. У Харкаве, куды мы пераехалі падчас вайны, на мяне вялікія ўплывы мелі пэдагогі, першымі вітаўшыя рэвалюцыю. Потым я прыняла чынны ўдзел у грамадскай справе й была старшынёй рады старастаў нашай гімназіі. З бацькам у мяне па гэтаму выпадку мала было канфліктаў. Пры радзянскай уладзе стала горай, і мы пераехалі зноў на Бацькаўшчыну, ужо апынуўшуюся пад Польшчай. Цяпер, зразумела, я стала іншай, і ў мяне з бацькам былі жахлівыя канфлікты. Я думаю, мы ня зможам з ім жыць пад адной страхой.

Тугоўскі глядзеў на яе збоку і ўспамінаў.

— Вы былі ў Харкаве? — запытаў ён. — Мне здаецца, я вас бачыў тады. Я быў тады вучнёўскім камісарам і прыйшоў у вашу гімназію запрашаць на сьвята адзінай працоўнай школы. Вы былі адны тады ў класе, і я вам перадаў плакаты і адозвы.

— Так, так. Прыгадваю. Гэта былі вы. І вы настрашылі тады ўсю гімназію і прымусілі заўтра ўсю гімназію ў поўным саставе на чале з дырэктаршай зьявіцца пад пагрозай зачыненьня школы.

Тугоўскі засьмяяўся.

— Так, так, — засьмяялася Вярхоўская. — Ах, як гэта далёка. І як даўно мы знаёмыя з вамі.

— І як мы мала ведаем адзін аднаго, — дадаў Тугоўскі.

— Чаму, можа быць мы ўжо пачынаем разумець адзін аднаго. А вось мы і прыйшлі.

Яны спыніліся каля вялікага каменнага будынку, асьветленага вагнямі.

— Зайдземце да мяне. Адпачнем. Вы ў мяне не

243

былі. Адзін раз вы так груба адмовіліся.

— Ах, выбачайце. На гэта былі свае прычыны.

— Ну так, магчыма... Я на вас не злуюся. Заходзьце, калі ласка.

— Ведаеце, крыху нязручна. Такі позьні час. Што можа падумаць ваша гаспадыня?

— Нічога. У мяне заўсёды бываюць да позьняга студэнты.

Яны падняліся на другі паверх й пазванілі. Згорбленая старушка ветліва адчыніла дзьверы й ветліва пакланілася Тугоўскаму. Пакой Вярхоўскай быў вельмі прыгожы, з шырокай пасьцеляй, пакрытай пышнай пярынай, з вялікімі люстрамі, белай туалетнай скрыняй, з пісьменным сталом і мяккай мэбеллю. Пахла прыемна парфумамі.

— Распранывайцесь, — прамовіла яна, — вось вешалка, а я тым часам падрыхтую гарбаты.

— Выбачайце, я доўга не магу ў вас быць.

— Ну нічога. Я зараз. — Яна выйшла, пакінуўшы Тугоўскага аднаго.

— Ну вось і гарбата, — прамовіла яна, несучы дзве шклянкі. Старуха ззаду несла пячэньне.

— Вы ідэальна ўлаштаваліся ў Празе, — сказаў Тугоўскі, калі старуха выйшла.

— Так, пакой добры, цёплы. Адна старушка, якая не леніцца мне зварыць гарбату й зраньня каву... Нічога, я задаволёна. Ну калі ласка. Пійце. Будзьце як у хаце. Мы належым да народу, каторы сёрбае, — засьмяялася яна, глытаючы гарбату. — Памятаеце ў Гарэцкага у "Дзьвюх душах", прапаршчык Абдзіраловіч сербануў гарбаты...

— Так, — усьміхнуўся Тугоўскі, — што зробіш: беларусам не прыходзіцца блішчэць манерамі. З праскіх беларусаў манеры былі хіба ў Загорскага.

244

— Ах, не спамінайце болей мне гэтага імя. Я цярпець яго не хачу.

— Але ж вы кахалі яго, Галена Уладзіміраўна?

— Кахала, не хаваю. Але цяпер ён мне брыдкі такі, што я проста ўспамінаю часы, каторыя праводзіла з ім разам, з дрож'ю па целе. Якія ўсё ж ткі мы дурныя. Мы, жанчыны, не бачым, што пад ласкай часта хаваецца пусты чалавек...

— Гэта прыемна чуць зараз. А колькі я мучаўся з-за гэтага. Колькі мук перацярпеў ад вас. І цяпер я мучуся. І цяпер нават у гэтай начы ня ведаю нічога пра сваё каханьне.

— Каханьне трэба заслужыць, — пачырванеўшы, прамовіла яна.

— Правядлова, Галена Уладзіміраўна, але мне некалі будзе служыць.

— Як гэта некалі?

— Заўтра я еду ў Карпаты, каб у Карпатах перайсьці польска-чэскую граніцу.

— Заўтра вы едзеце ў Карпаты? — прыўстала ад зьдзіўленьня Вярхоўская.

— Еду, Галена Уладзіміраўна. Я прыйшоў да вас, каб сказаць вам апошняе "даруй".

— Як жа так? Выбачайце, не разумею. А вашая навука, а ваш дыплём інжынера?

— Вы хочаце, напэўна, сказаць: а вашы засеяныя агароды, а вашыя ўтульныя пакоі з наседжанымі гнёздамі, цяпло, канарэйкі на вокнах? Я думаю, аб іх ня думаў Ка(...)еў, калі ўзрываў Зімні дварэц; я думаю, аб гэтым ня думаў Каліноўскі, студэнт з-пад Вільні...

— Эх, вось як... Дык, знача, вы хочаце быць новым Каліноўскім?

— Я ня думаю, Галена Уладзіміраўна, аб вялікай ролі... Можа быць, якая праца будзе зусім

245

маленькай, нявартай нават увагі, можа быць я нават загіну яшчэ ў сьнягах Карпат пры самым пераходзе граніцы, але я сваё бязжаласнае жыцьцё пакладу ўва ймя справы. "Сваю кроў аддай за свайго меншага брата, народ, каторы я не перастаў кахаць са ўсімі яго заганамі"... Вы, крайне левыя, вы, рашучыя рэвалюцыянеры, кахаеце народ толькі тэарэтычна, але самі баіцеся ўвайсьці ў яго брудную хату й апрануць яго кажух, бо ён сьмярдзіць. Я не баюся жывога народу. І калі яму патрэбна маё жыцьцё, калі для таго, каб ён вярнуўся да жыцьця, патрэбна мая ахвяра, я аддаю сябе ўсяго з рашучай гатоўнасьцей. Вы маеце зьдзіўлёны твар, Галена Уладзіміраўна. Вы хочаце, напэўна, сказаць: як гэты нэўрастэнік Тугоўскі, гэта забітая істота, гэты некультурны дзікар, раптам апынуўся ў ролі рэвалюцыянера. Вы правы, можа быць гэта дзіўна. Але гэта лёгічна, калі вы прыпомніце, што ў гэтага нэўрастэніка больш нічога каштоўнага не засталося ў жыцьці. Засталася адна глыбокая нянавісьць да сучаснага ладу й да ўсіх сытых мяшчан.

Вярхоўская яго ўважна слухала.

— Усё гэта так, — прамовіла яна сур'ёзна. — Ваша нянавісьць да сучаснага ладу пахвальная, але хіба дзеля гэтага трэба пераходзіць Карпаты, трэба ў кагосьці кідаць бомбы й выбіваць шкло ў будынках? Няўжо няма іншых спосабаў выявіць сваю нянавісьць, хаця бы, напрыклад, культурным спосабам. Мне здаецца, якраз для беларускай справы вы былі-бы больш карысны, як інжынер, чым як бомбамятацель.

— Аб гэтым ня будзем спрачацца, — спакойна, але цвёрда зазначыў Тугоўскі. — Вы мне ня ў чым ня пара. Ну дапусьцім, што страляць у іншых, каб

246

потым быць самаму расстрэленым, ёсьць асаблівы від самагубства. Я выбраў сабе гэты від самагубства, бо лепшага не знайшоў і ўсё... Якія тут могуць быць яшчэ гутаркі? Ітак, Галена Уладзіміраўна, — ён падняўся з крэсла, — дзякую вам за гарбату, за вашую ласку... — Ён узяў яе мяккую руку й пацалаваў яе пальцы працяжным даўгім пацалункам. — Бывайце. Не хачу сказаць назаўсёды, але навекі... Болей мы з вамі ніколі, ніколі не спаткаемся. — Ён пачаў апранывацца, каб схаваць свае сьлёзы. Яна адвярнулася з поўнымі сьлёз вачыма... — Ітак, яшчэ раз, Галена Уладзіміраўна, хачу разьвітацца з вамі, — сказаў ён ужо апрануты, павяртаючыся да яе. — У старынных апавяданьнях герой перад расставаньнем прасіў ад сваёй гераіні які-небудзь талісман на дарогу й паміраў з імем сваей каханай на вуснах. Праўда? — ён засьмяяўся.

— Праўда! — адвярнулася яна, сумна ўсьмяхаючыся, — толькі каб не выглядала вельмі сьмешна...

— Так можа быць... і без талісману... Калі-небудзь у турме я буду думаць аб вас.

— Ну, бывайце. — Ён працягнуў ей руку.

— Памятайце, калі вы ўжо сталі на такі шлях, будзьце больш цьвёрдымі і адважнымі. Жадаю вам посьпеху.

Ён ня вытрымаў. Прыцягнуў яе да сябе, апошні раз пацалаваўшы яе гарачыя вусны, калі яны выйшлі разам на вуліцу. Прага спала спакойным

247

сном.

Яна доўга глядзела ў цёмную далю. Ён усё аддаляўся ў чорныя нетры, пакуль не схаваўся ад яе навекі...

* * *

У Карпатах бушавала мяцеліца. Нехта крычаў, нехта валіўся бяссільны ў сьнег, зноў падымаўся і зноў ішоў, і зноў крычаў. Але голасу яго ня чулася за воем ветра ў гарах. Нарэшце чалавек зваліўся ў сьнег. Ён зразумеў, што заблудзіўся й што больш ня мае сілы змагацца з бурай. Усё было скончана. Ён зьняў дарожную сумку, выбраў усе дакументы, каторыя маглі паказаць, хто ён, дастаў сернікі й пачаў паліць усё, што было з ім. Вецер сярдзіта раздуваў полымя й раскідываў іскры па глыбокаму сьнегу.

— А цяпер, — сказаў ён сам сабе, калі ад паленай паперы засталіся на сьнягу толькі чорныя кавалкі залы, — будзем замярзаць у Карпатах. Кажуць, што замёрзнуць — самая лёгкая сьмерць. Паглядзім...

Ён сеў лепш у сугробіну сьнегу, паправіў кажух, лепш наставіў каўнер й прыгатаваўся да сьмерці.

Вецер кружыўся над ім, кідаў у яго велізарнымі кавалкамі сьнегу, злосна сьвісцеў над яго галавой і доўга хахатаў над ім, як над сваей бяссільнай ахвярай. Чалавек думаў. Мозг працаваў востра й напружана. Чакаўся жаданы й хутчэйшы сон сьмерці, але ён ня йшоў. Толькі жахліва студзянелі пальцы рук і ног.

"Я замерзну ня хутка, — думаў чалавек, — але мяне можа занясьці гэтым сьнегам, — і ён жахліва паглядзеў каля сябе на ўсё растучую сьнегавую

248

гару. Ён зрабіў апошні высілак волі, папрабаваў падняцца, але зараз жа зноў утапіўся ў сьнегавай яме. Ісьці не было магчымасьці. Ён заваліўся і заплакаў. І зараз жа спомніў сваё ўсё-ўсё жыцьцё. Яно пранярслося аднэй электрычнай іскрай, успыхнула, як магній пры фатаграфіі, і пагасла ў цемры... Яму паказалася, што ён бачыць асьветленыя вокны, далёкую хату на далёкай Бацькаўшчыне, сваю старушку-матку за калаўротам, апавядаючай яму казкі. І раптам уся Беларусь з дымам печак, з пахам вячэры, з яе сьвятамі, з п'янымі вечарынамі вырасла перад яго вачыма. Ён чуў усю горыч свайго паложаньня, увесь жах сваей сьмерці пад навалай сьнегу. Сьлёзы жалю накручываліся на вачох. "Эх, шкода, — падумаў ён нарэшце аб жыцьці, — што скончана пытаньне. Няма больш на сьвеце Тугоўскага, і добра ці дрэнна гарэла свечка яго жыцьця, па насьмешцы лёсу яна дагарэла ў Карпатах. Яна кончыла гарэць ня там, дзе ей трэба было, не на алтары беларускага народу. І можа быць калі-небудзь, калі будучыя пакаленьні выйдуць у белай вопратцы з сьцягамі й штандарамі вітаць новае жыцьцё вольнай і братэрскай сям'ей, калі ў велізарнай храміне, на франтоне якой літарамі будзе напісана: "Вольная Беларусь", будуць запалены сьвечы на ахвярніку — напэўна ні адна свечка не запаліцца за яго, невядомага Тугоўскага, невядомай ахвяры цемры.

— Ну што ж... Няхай даруе яго Бацькаўшчына за тое, што ён не зрабіў для яе. "За кроў яго агульную з народам даруй, о родны край, даруй..."

Сьнег яшчэ больш густымі хлоп'ямі пачынаў кружыцца над яго галавой. Вецер сьмяяўся. Як бязжаласны кат, ён чакаў яго сьмерці і хахатаў над яго апошнімі думкамі.

Працяг.

Пачатак у №№ 23 — 50, 52, 1.

*АД СЭРЦА ДА СЭРЦА*

# ДАНЕСЦІ НАДЗЕЮ І ЗДАРОЎЕ

На старонках нашай газеты мы ўжо аднойчы сустракаліся з Полам Моарам, пастарам з Нью-Йорка, які ўзначальвае дабрачынную арганізацыю «Сіціхоўп індастры». Другі год яна аказвае дзейсную матэрыяльную і духоўную дапамогу беларускім дзецям, лёс якіх закранула чарнобыльская хмара. За гэты час сабрана і перавезена больш чым 150 тон лекаў, вітамінаў і медыцынскага абсталявання. У пачатку снежня Пол Моар і яго верныя памочнікі, жонка Шарон і сын Пол, ізноў прыехалі да нас са сваёй высакароднай місіяй, прывезлі 75 тон дабрачыннага грузу.

— Шаноўны спадар Моар, вельмі прыемна вітаць вас чарговы раз на беларускай зямлі. Мы ведаем, як блізка да сэрца вы ўспрынялі нашу бяду. Але ўсё гэта—нялёгкая справа: здабыць сродкі, закупіць і, нарэшце, перавезці іх з Амерыкі на Беларусь. Як у вас гэта атрымліваецца і хто вам дапамагае? — спыталася я пры сустрэчы.

— Так, на гэты раз было асабліва складана. Мы сутыкнуліся з рознымі перашкодамі і непаразуменнямі. Магчыма, так сталася з прычыны хуткіх змен і той рэарганізацыі структур, якія зараз адбываюцца ў вашай краіне.

На працягу амаль шасці тыдняў мы працавалі і ламалі галаву над тым, як транспартаваць увесь груз, які нам удалося атрымаць ад розных амерыканскіх кампаній. Дапамог выпадак. Самалёт «Мрыя» з прадстаўнікамі Украінскага чарнобыльскага фонду знаходзіўся ў той час у Нью-Джэрсі. Яны даведаліся аб нашых праблемах з амерыканскіх газет, патэлефанавалі нам і прапанавалі сваю дапамогу. 75 тон лекаў апынулася на борце ўкраінскага самалёта. Але самалёт знаходзіўся ў такім тэхнічным стане, што рэйс ледзь не скончыўся трагічна. Экіпаж павінен быў зрабіць вымушаную пасадку ў Празе. У рэшце рэшт мы апынуліся ў Кіеве, але далей самалёт ужо ляцець не мог. Трэба было вырашаць, што рабіць з грузам.

— І не было ніякай дапамогі з боку беларускага ўрада?

— Яны рабілі ўсё магчымае, асабліва спадар Краўчанка, міністр замежных спраў. Але ўся справа ў тым, што пакуль яшчэ няма транспартнага маста паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі Амерыкі, а «Аэрафлот» патрабуе аплату толькі ў цвёрдай валюце, якой у рэспубліцы няшмат. Вось чаму адразу пасля прыезду я сустрэўся з вашым Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам і міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам. Мы таксама падпісалі новы пратакол з Віктарам Бур'яком — старшынёй Чарнобыльскага камітэта. Спадзяёмся, што гэтае пагадненне дапаможа нам наладзіць дастаўку і размеркаванне будучых грузаў.

— Ці падтрымліваеце вы сувязі з беларускімі суполкамі ў ЗША?

— Безумоўна. Я быў у беларускай абшчыне, выступаў перад імі і бачыў, як хвалююць іх вашы праблемы. Але раней многія не вельмі добра ўяўлялі сабе, якое становішча ў Беларусі. Яны пачынаюць аб'ядноўвацца і фарміраваць саюз падтрымкі ахвяраў Чарнобыля. Мы вельмі добра адчувалі іх дапамогу і ў падрыхтоўцы гэтага рэйса. Сярод грузу некалькі пасылак ад беларускіх амерыканцаў.

— Калі я не памыляюся, гэта ваш дванаццаты візіт на Беларусь за апошнія чатырнаццаць месяцаў. Якія змены адбыліся ў вашым жыцці за гэты час?

— Упершыню я прыехаў у Мінск у верасні мінулага года толькі на 72 гадзіны, але гэтага было дастаткова, каб амаль цалкам перайначыць сваё жыццё і жыццё ўсёй сваёй сям'і. Раней мы нічога не ведалі ні пра Беларусь, ні пра ваш цудоўны народ. Мы пачалі знаёмства з Дзіцячага гематалагічнага цэнтра, Інстытута гематалогіі, дзіцячых інтэрнатаў, засталіся ў захапленні ад вашых дзяцей, вашых людзей. У нас з'явіліся новыя сябры. Мы звярнулі ўвагу на цяжкае становішча з лекамі, медыцынскім абсталяваннем і зразумелі, што будзем дапамагаць, бо немагчыма заставацца абыякавым да лёсу дзяцей.

Мы вярталіся дамоў з адной толькі думкай: данесці вестку пра вашу бяду да амерыканскага народа. Праз радыё, тэлебачанне і друк мы знаёмілі амерыканцаў са становішчам у Беларусі, заклікалі адгукнуцца на ваш боль і дапамагчы беларускім дзецям—нявінным ахвярам Чарнобыля. І людзі адгукнуліся. Тысячы і тысячы амерыканцаў пачалі дасылаць лекі, вітаміны, грошы. Сёння нам дапамагаюць 22 амерыканскія кампаніі. Трэба было наладзіць і скаардынаваць работу па збіранню і транспартаванню грузаў у Беларусь. Вось чаму я вырашыў пакінуць сваю дзейнасць прапаведніка і аддаць усяго сябе гэтай справе, бо і мая жонка, і я ўжо не ўяўляем свайго жыцця без вашай цудоўнай зямлі, без вашых добразычлівых людзей.

— Вы пакінулі прапаведаваць, новая праца адбірае ўвесь ваш час, і вы працуеце па 14—16 гадзін. Ці не адчуваеце вы якога-небудзь разладу ў сваёй душы?

— Я вельмі спадзяюся, што прыйдзе дзень — і з'явіцца магчымасць прапаведаваць тут у вас. І ў мяне была ўжо аднойчы такая нагода...

Калі я сустракаўся са спадаром Станіславам Шушкевічам, ён вельмі далікатна, вельмі спакойна пералічыў асноўныя патрэбы свайго народа. Ён адзначыў, што на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў не было магчымасці вучыць вашых дзяцей маральнасці і духоўнасці. Духоўная дапамога сёння ёсць праблема нумар адзін.

Другая важная задача—накарміць людзей. Спадар Шушкевіч мяркуе, што робіцца ўсё магчымае, і ён упэўнены: усё будзе зроблена вашымі ўласнымі рукамі. Я даведаўся з яго слоў і пра трэцюю праблему—ахову здароўя. На сённяшні дзень у Ветцы, Хойніках, Нароўлі і іншых гарадах маецца 60—70 працэнтаў дэфіцыту лекаў. Медыцынскае абсталяванне дрэннае. Спатрэбіцца не адзін год, каб вы пачалі вырабляць яго самі. А часу няма. «Таму мы будзем вельмі ўдзячныя, калі вы дапаможаце нам з лекамі і абсталяваннем, яны даруюць нашым людзям жыццё, а ваша духоўная дапамога — дасць ім надзею»,—сказаў мне спадар Шушкевіч.

— Апошняе пытанне, спадар Моар. Якія вашы планы?

— Праз два-тры тыдні мы павінны прывезці рэшту грузаў, яшчэ 80 тон. На гэта ўжо атрымана згода. Наступны рэйс плануецца на пачатак студзеня.

Мы вельмі ўдзячныя ўсім арганізацыям, усім вашым людзям, якія дапамагаюць нам. Мы молімся за вашых дзяцей, за ваш народ, за членаў вашага ўрада і зробім усё ад нас залежнае, каб праз нашу дружбу, узаемаразуменне і ўзаемадапамогу данесці да вашых людзей надзею і здароўе.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# *ЗАСТАЛАСЯ Ў ЛЮДЗЕЙ ТОЛЬКІ МАРА...*

**Старажытная зямля Веткаўшчыны, што на Гомельшчыне, стагоддзямі шчодра карміла людзей: добра тут радзіла збажына, у блакітных азёрах і паўнаводных рэчках было шмат рыбы, на зялёных лугах хадзілі шматлікія статкі жывёлы — жыві і жыццю радуйся. Але чарнобыльская катастрофа зламала лёс гэтага благаславеннага краю. Ратуючыся ад радыяцыі, веткаўцы вымушаны былі тэрмінова перасяляцца ў іншыя мясціны. Невясёлыя тыя наваселлі. Бо пакінутымі аказаліся не толькі дамы ці нейкія прылады працы — прыйшлося развітацца з зямлёй сваіх продкаў. Ці ж надоўга!... Ніхто пакуль не адкажа на гэта пытанне. Засталася ў людзей толькі мара аб вяртанні...**

**НА ЗДЫМКАХ: апошнія перасяленцы з вёскі Савінкі; не ўсе рэчы ўдаецца забраць з сабою; так спяшаліся, што і дзверы не зачынілі (вёска Нова-Іванаўка).**

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.**







СЁННЯ амаль што стаў аксіёматычным той пункт гледжання, што без прыцягнення, без супрацоўніцтва з замежным капіталам нам дужа цяжка будзе падняць сваю хворую да непрытомнасці гаспадарку ды яшчэ паставіць, каб трывала стаяла, на рэйкі рыначнага шляху. А ў гэтым супрацоўніцтве, гандлі, у інвестыцыі замежнага капіталу свая асаблівая роля належыць эміграцыі. Ва ўсякім разе многія краіны свету даўно ўвялі яго, супрацоўніцтва, у ранг дзяржаўнай палітыкі, што, сярод іншага, паспяхова спрыяе ім ехаць па тых рэйках у здаровым стане, знаць не знаючы ні пра «візіткі», ні пра «купоны».

ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЗАМЕЖНЫМІ СУАЙЧЫННІКАМІ

# БЕЛАРУСКАЯ МАТРОШКА Ў КАНАДЗЕ

Здавалася б, аб перавагах такіх узаемаадносін, якія грунтуюцца на этнічнай еднасці і сумяшчальнасці, тым больш у час станаўлення нашай дзяржаўнасці, няма патрэбы многа гаварыць: яны зразумелыя як для аднаго, так і для другога боку. Аднак практыка эканамічных міжнародных сувязей Беларусі сведчыць, што ўдзел у іх нашых замежных суайчыннікаў неактыўны і кволы. Але ж яны, сувязі, ёсць. Адзін з такіх прыкладаў—узаемавыгаднае перасячэнне камерцыйных інтарэсаў магазіна аптовага продажу «Тройка», заснаванага нашымі землякамі ў Таронта, і планаў выхаду на рынак Паўночнай Амерыкі беларускіх прадпрыемстваў па вырабу сувеніраў. Праўда, нельга катэгарычна сцвярджаць, што гэтае перасячэнне — аблада толькі перабудовы. Магазін ужо набыў пэўны вопыт у імпартаванні тавараў з былога Саюза, рабіў гэта пры пасрэдніцтве «Новаэкспарта». Ды цяпер справа гэтая развіваецца ў інакшым—і колькасным, і якасным—рэчышчы.

Днямі ў Мінску знаходзілася менеджэр «Тройкі» Ліза Кантаніколас. Прыезд яе і абумоўлены якраз гэтым рэчышчам, у прыватнасці падпісаннем новых пагадненняў з некаторымі беларускімі прадпрыемствамі, з такім, як, напрыклад, Брэсцкая фабрыка сувенірных вырабаў. Пры гэтым, як выказалася Ліза Кантаніколас, яна ахвотна закупіць для канадцаў беларускія матрошкі. Прадукцыя з берагоў Буга і Мухаўца—здатная, ёсць на яе попыт у краіне кляновага ліста. Да таго ж адносіны самой фабрыкі да выканання артыкулаў дагавора былі і застаюцца адказнымі і дзелавымі—фактар у цяперашнім супольным бізнесе мала што ні самы галоўны.

Госця з Таронта зацікаўлена ў дзелавым партнёрстве і з прадпрыемствам таго ж профілю з Магілёва, якое будзе пастаўляць магазіну вырабы з саломкі.

Што да праблемы супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі — суайчыннікамі Захаду, дык перашкоды тут (і гэта яшчэ раз заўважыла Ліза Кантаніколас) не з'яўляюцца ні навіною, ні сакрэтам. Язык пабілі аб іх, гаворачы: нестабільнасць, неканверсаванасць рубля і г. д. А нярэдка і тое гожае, сусветнага ўзроўню, што вырабляем, мы не здольныя як след паказаць, даць яму рэкламу. А тут дапамога дзелавых людзей з асяроддзя дыяспары мне здаецца асабліва бясцэннай. Як зрабіць, каб да яе дайшоў наш сур'ёзны розум і нашы шчыра зацікаўленыя рукі?

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**




**Byelorussian Exhibition of Arts and Crafts**

March 13, 1977 to April 3, 1977
Paintings, Sculpture and Crafts of Byelorussian Artists

Byelorussian-American Center
So. Whitehead Ave.,
South River, N.J.

Open
Sundays 3:00 pm-7:00 pm

### ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА

# НАТХНЯЮЦЬ ВОБРАЗЫ РАДЗІМЫ

**НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ МАСТАЧАК, НАШЫХ СУАЙЧЫННІЦ З ЗША**

У якасці інфармацыі: дзявочае прозвішча Надзеі Кудасавай таксама Рагалевіч, а Ірэна — дачка таго самага Міхася Рагалевіча, з сям'ёй якога Надзея трапіла ў эміграцыю. Нарадзіліся абедзве жанчыны на Палессі ў вёсачцы Лутоўе, што на Князь-возеры.

Ірэна скончыла мастацкую школу ў Пенсільваніі і з'яўляецца прафесійным дызайнерам. «Я люблю моцны дызайн, фарбы, лініі»,—кажа яна. Доўгі час Ірэна працавала па спецыяльнасці, цяпер — «фры лэнд», гэта значыць, па дагавору бярэ работу дамоў.

Я бачыла зробленыя ёю праспекты, брашуры, каталогі, календары, розную рэкламную прадукцыю і магу адзначыць высокі прафесіяналізм аўтара, густ, арыгінальнасць.

Акрамя свайго непасрэднага ўдзелу ў арганізацыі выстаў беларускіх мастачак, этнаграфічных фестываляў, Ірэна ўвогуле вельмі і вельмі актыўная ў жыцці эміграцыі. У свой час напісала абразы для царквы ў Саўт-Рыверы, робіць вокладкі для выданняў БІНіМа; працуе алеем, акварэльнымі фарбамі, алоўкам—словам, універсал. Дыяпазон яе магчымасцей у мастацтве даволі шырокі, у чым я магла пераканацца і на выставе. Побач з жывапісным палатном «Макі» і настраёвай кампазіцыяй з вясковай хатай—малюнкі, выкананыя ў строгай рэалістычнай манеры, дзе, зноў жа, так альбо інакш прысутнічае Беларусь. Як? Дзякуючы чаму так глыбока можа адчуваць сваю радзіму чалавек, які, па сутнасці, толькі нарадзіўся ў гэтым краі і быў вывезены адтуль зусім малым дзіцем? Што сілкуе беларускасць мастачкі, якая не мае нават тых успамінаў і той памяці, што ў яе цёткі Надзеі або ў Галіны Русак?! Загадка Ірэны не давала мне спакою.

— Я хачу сказаць, каб вы ведалі, што мне палітыка зусім не ідзе. Я гэтым не займаюся,—адмоўна пакруціла галавой мастачка. — Бацька, калі я яшчэ зусім малая была, дык на выпадак, як нешта такое здарыцца і мы раптоўна будзем разлучаны, наказваў: «Адно памятай, дачушка, што ты беларуска. І ўсім гэта кажы, як будуць пытацца». Прыехалі мы ў другое месца, дом купілі, я стала хадзіць у школу. Усім кажу, што я беларуская. Неяк выставу рабіла, напісала пра сваё паходжанне, усе сталі пытацца, а што гэта за нацыя такая—беларусы. Не ведаюць. Толькі рускія ім вядомыя. А ўжо пасля коледжу прыехала ў Нью-Джэрсі да Надзі і чую: то палешукі, то крывічы. Хто такія, думаю. Ніколі не чула, я ж—беларуская. А яны мне: «Адкуля сама?» Адказваю, што з Палесся. Смяюцца: «Ты і ёсць паляшучка». А што гэта выдае? Хіба яны не беларусы?

А яшчэ, як першы фестываль мы наладзілі, то прыйшло мноства людзей. Убачылі ручнікі, касцюмы, пасцілкі беларускія—такое багацце!—адразу па-іншаму загаварылі. То казалі, што яны рускія або ўкраінцы ці палякі, а то сталі прыгадваць, што і ў іх бабуля такія рэчы рабіла.

Мы тут маем праблемы з эмігрантамі іншых нацыянальнасцей, якія прысвойваюць сабе нашае мастацтва і нашу гісторыю. Ледзь не ў бойку кідаюцца. Таму гэта важна—удзельнічаць нам у этнаграфічных фестывалях, ладзіць свае выставы, каб беларусы не адракаліся ад свайго, шанавалі яго і ведалі.

Жыву я тут, а сэрца маё ўсё ж там, на Беларусі. Адчуваю: усё тут не маё. Нават душа ные, так хочацца паехаць дамоў, туды, дзе жыта калышацца і зязюлі ў бярозавых гаях...

Беларускія мастачкі ў Амерыцы... Захавальніцы, можна смела сказаць, духоўных скарбаў свайго народа на чужыне. Ахвярныя жанчыны, якія, нягледзячы ні на што, захоўваюць і зберагаюць бясцэнныя прадметы матэрыяльнай культуры беларусаў. Аднойчы Надзея Кудасава адчыніла вялікі куфар і паказала, што ёй удалося сабраць за доўгія гады жыцця на эміграцыі. Чаго там толькі не было! За вечар не пераглядзіш. Можна было толькі пашкадаваць, што такія унікальныя рэчы не ў музеі, а ў прыватнай калекцыі.

Прынамсі, пытанне аб стварэнні многанацыянальнага этнаграфічнага музея ў Нью-Джэрсі ўжо ставілася і нават было падтрымана губернатарам. Справа дайшла ўжо да архітэктара. Але чамусьці заглухла. Пакуль жа выставы беларускага мастацтва ладзяцца ў іншых музеях. І штат дае на гэта грошы.

Існуе, праўда, іншая думка наконт лёсу ўсіх гэтых рэчаў. Напрыклад, Галіна Русак лічыць, што найбольш адпаведнае месца для іх знаходжання—на Беларусі. Таму не выключана, што праз некаторы час у нас з'явіцца такі музей, дзе будуць сабраны ўсе рэчы, якія тым ці іншым шляхам трапілі за мяжу і былі захаваны высілкамі эміграцыі.

На шчасце, жалезная заслона паміж намі знікае. І цяпер ужо ёсць магчымасць мець нармальныя, цывілізаваныя адносіны са сваёй эміграцыяй. Але і дасюль мастачкі, пра якіх я збольшага вам расказала, знаходзяцца ў ізаляцыі, адарванасці ад мастацкага жыцця Беларусі. Запаветная іх мара—прыехаць на радзіму са сваёй выставай. Будзем спадзявацца, што так яно і здарыцца, і гэта будзе наша агульнае свята.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: запрашальны білет, выкананы І. РАГАЛЕВІЧ-ДУТКО; работы з выстаўкі мастачак Т. СТАГАНОВІЧ, Н. КУДАСАВАЙ, І. РАГАЛЕВІЧ-ДУТКО, Г. РУСАК.**

**Фота А. КЛЕШЧУКА.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 52, 1.**









*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ГОРАД, ЯКІ ЗНІК У БЕЗДАНІ ЧАСУ

Калісьці гэты горад быў магутны, славуты і нават спаборнічаў у гандлі рабамі з такім цэнтрам кірмашоў нявольнікамі, як Кафа (сучасная Феадосія) у Крыме. Нашы гісторыкі чамусьці ўтойваюць гэтую маловядомую, ды і непапулярную старонку старажытнарускай дзяржавы. Нам з дзяцінства казалі пра асаблівы гістарычны шлях усходнеславянскіх народаў. Але, аказваецца, законы грамадскага развіцця для ўсіх народаў аднолькавыя. Гандаль рабамі на старажытнай Русі існаваў, і, як ні парадаксальна, яго цэнтрам быў адзін з найбольш вядомых гарадоў крывіцкага племені — Друцк. Акрамя яго, шырока вядомыя і такія гарады крывічоў, як Полацк, Орша, Віцебск, Менск, Крыўгарад (Крывы горад — сучасная сталіца Літвы Вільнюс) і іншыя. Што з'яўлялася асновай нявольніцтва? Як і ўсюды, па-першае, крыніцай іх былі войны. Па-другое, даўгавая кабала. Продаж сябе і сваіх родных у рабства. Існавалі таксама і старажытнарускія законы, якія прадугледжвалі за тыя ці іншыя злачынствы продаж людзей у нявольнікі. Рабоў можна было прадаваць, купляць, аддаваць у спадчыну, дарыць...

Упершыню Друцк упамінаецца ў славутым «Павучэнні Уладзіміра Манамаха» ў 1078 годзе. Вось як там пішацца: «И Всеславъ Смолнескъ ожьже, и азъ всъдѣ с черниговци и двою коню, и не застахом... въ Смолиньскѣ. Тѣм,же путем по Всеславѣ пожегъ землю и повоевавъ до Лукамля и до Логожьска, та на Дрьютьскъ воюя, та Чернигову». А другі раз летапісы кажуць аб ім у сувязі з моравай язвай (1092 год), якая адсюль прыйшла ў Полацк. Прычым у помніках старажытнай беларускай пісьменнасці і гісторыі Друцк яшчэ называюць Дрютеском, Друтеском, Друческом, Дрьютьском...

Калі ўзяць у рукі карту сучаснай Беларусі, то нідзе горада Друцка ўжо не знайсці. Праўда, на левым беразе ракі Друці ёсць вёска з такой назвай.

«Большая Советская Энциклопедия» гаворыць, што горад Друцк перастаў існаваць у канцы XIV ці ў пачатку XV стагоддзя. Беларускія гісторыкі адзначаюць, што горад знішчаны ў XVI стагоддзі, але гэта, як і ўсё іншае, недакладна. Горад існаваў яшчэ і ў XVII стагоддзі. Дастаткова звярнуцца да самай праўдзівай і сумленнай крыніцы — «Баркулабаўскай хронікі» (яна захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве), якая ўпамінае аб Друцку ў дакументах за 1601 год. Вось урывак з гэтай хронікі: «Потом у Речицы, в Лоеве, в Киеве аж на Волынь добрый врожай был. А так потом много множества людей убогих з голоду на Низ (Днепра) з жонами и детками и зъ семъею (шло), што иж страшно было не только видети, але трудно было и выписати, то ест з верху, з волости Шкловское, з Друцка, з Дубровны, з Кругль, з Бобря, з Витебска, с-под Полоцка, с-под Менска и з инших многих украин». І вось з таго года ўсе крыніцы аб Друц-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# «...ПАКУЛЬ МАЮ ДЫХАННЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

вызвалення рэспублікі ад нямецкіх захопнікаў передаў Наркамзему БССР каля трох тон элітарнага зерня азімай пшаніцы сваёй селекцыі.

А. Жэбрак у гэты час заявіў аб сабе і як арганізатар навукі, грамадскі дзеяч. Ён удзельнічаў у рабоце Усеславянскага з'езда, які праходзіў у 1945 годзе ў Сафіі. У гэтым жа годзе А. Жэбрак у складзе дэлегацыі Беларускай ССР падпісаў у Сан-Францыска Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Асабліва хвалюе яго становішча ў біялагічнай навуцы, дзе правіў баль «галоўны аграном Наркамзема СССР» Лысенка.

У канцы 1944 — пачатку 1945 гадоў А. Жэбрак узяў на сябе смеласць напісаць вялікае пісьмо сакратару ЦК ВКП(б) Г. Маленкову, спрабуючы пераканаць яго ў неабходнасці нармалізаваць становішча ў генетыцы, змяніць кіраўніцтва Інстытута генетыкі АН СССР, камандзіраваць савецкіх генетыкаў у ЗША і Англію для азнаямлення з дасягненнямі біялогіі. У лютым 1945 года — новы зварот да Маленкова з гэтаю ж просьбаю. 16 красавіка Жэбрак быў на прыёме ў В. Молатава і інфармаваў яго аб становішчы ў генетыцы. Але ж дамагчыся амаль нічога не ўдалося. А. Жэбрака прыцягнулі да работы ў апараце ЦК партыі, захаваўшы за ім кіраўніцтва кафедрай у Ціміразеўскай акадэміі. Вясной 1947 года Антон Раманавіч быў абраны прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, але працаваць яму на гэтай пасадзе давялося ўсяго паўгода, хаця задумы былі іншыя.

Летам 1947 года ў краіне разгарнулася шырокая кампанія барацьбы супраць так званага нізкапаклонства перад усім замежным. Самая малая пахвала чаго б там ні было замежнага кваліфікавалася як антыпатрыятычны, антысавецкі ўчынак. Лысенкаўцы спрытна скарысталі гэтую кампанію ў барацьбе з генетыкамі і ў першую чаргу з яе лідэрамі.

Цкаванне Жэбрака пачалося неўзабаве пасля таго, як летам 1946 года ў амерыканскім часопісе «Сайенс» быў надрукаваны яго артыкул аб развіцці біялагічнай навукі ў СССР. Антон Раманавіч даваў адказ амерыканскаму калегу Карлу Саксу, які папракаў савецкіх вучоных-біёлагаў у тым, што яны не могуць выказваць свае погляды, якія адрозніваліся б ад афіцыйных, і, у прыватнасці, што толькі адзін Лысенка фарміруе шляхі развіцця савецкай генетыкі. Жэбрак слушна адзначыў, што ў нашай біялагічнай навуцы склаліся дзве плыні, так званая мічурынская аграбіялогія і класічная генетыка, да якой належыць і сам аўтар. Ён адназначна сказаў, што наша генетыка жыве і развіваецца, аднак не тым шляхам, на які яе збівае Лысенка, а ранейшым, пракладзеным задоўга да яго з'яўлення.

Хутка ў друку з'явіліся артыкулы супраць Жэбрака. Спачатку ў «Ленинградской правде» — артыкул называўся сімвалічна па тым часе: «Барацьба ідэалогій у біялагічнай навуцы», а ў 1947-м у «Литературной газете» і «Правде». Артыкул у «Правде» адкрыта заклікаў «да суда грамадскасці над тымі,.. хто сваімі антыпатрыятычнымі ўчынкамі ганьбіць нашу перадавую савецкую навуку». Уступілі ў дзеянне і беларускія навуковыя сілы. 11 кастрычніка 1947 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» было надрукавана пісьмо беларускіх біёлагаў А. Лапо, В. Шэмпеля, М. Дарожкіна і М. Замяціна, у якім яны праводзілі думку аб тым, каб справу аб антыпатрыятычным учынку Жэбрака абмеркаваў прэзідыум Акадэміі навук БССР.

12 лістапада 1947 года агульны сход акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў АН БССР адкрытым галасаваннем, што пярэчыла статуту акадэміі, вызваліў Антона Жэбрака з пасады прэзідэнта Акадэміі навук за антыпатрыятычны ўчынак, несумяшчальны з годнасцю савецкага вучонага.

Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР запатрабавала суда «гонару» над Жэбракам і правяло яго. Вучонаму было вынесена грамадскае ганьбаванне. Адзіным чалавекам, хто пасмеў выступіць на судзе супраць паклёпу, быў прафесар М. Дубінін. Ён даказваў, што ўчынак Жэбрака патрыятычны па сваёй сутнасці, бо робіць гонар нашай краіне і савецкай навуцы.

Настаў самы цяжкі перыяд у жыцці вучонага, непрыемнасці навальваліся з усіх бакоў. Лысенка і яго падручныя пачалі актыўную контратаку з мэтай поўнага разгрому класічнай генетыкі. Ён адбыўся на сумна вядомай жнівеньскай (1948 года) сесіі Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна. Хаця А. Жэбраку і ўдалося на гэтай сесіі далажыць аб выніках сваіх работ, але ж пераважная большасць у зале не хацела нічога разумець.

Пасля сесіі Жэбрака прымусілі напісаць пісьмо-адрачэнне, якое было надрукавана ў газеце «Правда» 15 жніўня 1948 года. А ўжо 17 жніўня на пасяджэнні прэзідыума АН БССР было разгледжана пытанне аб выступленнях на сесіі УАСГНІЛ правадзейных членаў АН БССР А. Жэбрака і В. Нямчынава і аб пісьме правадзейнага члена АН БССР А. Жэбрака ў газеце «Правда».

Прэзідыум АН БССР аднагалосна асудзіў на сесіі паводзіны вучоных, спрабаваўшых абараніць «рэакцыйныя тэорыі ў галіне біялогіі, палічыў гэтыя выступленні недастойнымі савецкіх вучоных» і запатрабаваў ад іх парваць з рэакцыйнай ідэалогіяй Вейсмана-Моргана-Мендэля.

На пасяджэнні прэзідыума АН БССР 30 жніўня 1948 года разглядалася пытанне аб выніках абследавання стану работ правадзейнага члена АН БССР А. Жэбрака, з якім выступіў дырэктар Інстытута батанікі прафесар М. Дарожкін. Прэзідыум пагадзіўся з заключэннем камісіі аб спыненні работ з цытаплоіднай грэчкай, пшаніцай і просам пад кіраўніцтвам А. Жэбрака. Яго лабараторыя была ліквідавана.

На месца загадчыка кафедры генетыкі ў Ціміразеўскай акадэміі ў Маскве быў прызначаны сам Т. Лысенка. Жэбрак — доктар біялагічных навук, прафесар, акадэмік — у росквіце сваіх творчых сіл застаўся беспрацоўным. Больш таго, яму прыйшлося хавацца ў свайго вучня, каб не быць арыштаваным. Толькі праз пэўны час яму ўдалося ўладкавацца на працу ў Маскве спачатку прафесарам Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута, а ў 1949 годзе — загадчыкам кафедры батанікі Маскоўскага фармацэўтычнага інстытута, дзе ён здолеў захаваць пры выкладанні студэнтам асновы генетыкі і цыталогіі, напісаў падручнік па батаніцы для вышэйшых навучальных устаноў. А. Жэбрак толькі ў 1957 годзе быў запрошаны для работы ў Мінску, дзе кіраваў лабараторыяй паліплады ў Інстытуце біялогіі АН БССР, прымаў удзел у стварэнні ў пачатку 60-х гадоў самастойнага аддзела генетыкі і цыталогіі АН БССР, які ў 1965 годзе быў ператвораны ў адпаведны інстытут. Вынікі праведзеных даследаванняў адлюстраваны вучоным у яго манаграфіі «Паліплоідныя віды пшаніц», якая выйшла з друку ў 1957 годзе. Гэта кніга мае істотнае значэнне для работы селекцыянераў-практыкаў і адначасова развівае храмасомную тэорыю спадчыннасці.

Даследчык унёс значны ўклад у распрацоўку праблем агульнай генетыкі і генетыкі раслін. Ім апублікавана каля ста навуковых работ і артыкулаў, якія перакладзены на многія мовы. Яго даследаванні вядомы ва ўсім свеце і ўвайшлі ў залаты фонд біялагічнай навукі.

Жыццё А. Жэбрака абарвалася пасля чарговага інфаркту 20 мая 1965 года ў Маскве. На каменнай стэле на яго магіле ёсць лацінскі выраз: «Маю надзею — пакуль маю дыханне». І высечаны колас.

**Сцяпан ЯКУШЭВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ:** акадэмік АН Беларусі А. ЖЭБРАК (другі справа).

## ЗДЫМАЕЦЦА КІНО



Работа над сямісерыйным тэлевізійным фільмам па аднайменнаму раману Уладзіміра Дудзінцава «Белае адзенне» заканчваецца на кінастудыі «Беларусьфільм».
У фільме здымаліся вядомыя акцёры Людміла Гурчанка (Туманава), Аляксандр Дзям'яненка (Парай), Валерый Гарналін (Дзяжко) і іншыя. Рэжысёр-пастаноўшчык фільма Леанід Белазаровіч выступіў не толькі адным з аўтараў сцэнарыя, але і сыграў ролю следчага Цімура Ягоравіча.
**НА ЗДЫМКУ:** ідуць здымкі заключных кадраў фільма «Белае адзенне». У ролі следчага Цімура Ягоравіча (справа) рэжысёр-пастаноўшчык фільма Леанід БЕЛАЗАРОВІЧ.

Фота У. ШУБЫ.

# САКРЭТНАЕ РАССАКРЭЧАНА

Гэтыя дакументы вядомыя нямногім, хоць належалі беларускаму музею імя І. Луцкевіча ў Вільні. Ніякіх адносін да дзяржаўных тайн, як вы разумееце, яны не мелі. У фондах захоўваліся матэрыялы аб жыцці і дзейнасці беларускіх пісьменнікаў, вучоных, палітычных дзеячаў пачатку стагоддзя. А тым не менш, строгім вартаўніком, які не падпускаў даследчыкаў да калекцыі братоў Луцкевічаў, быў накладзены ў свой час НКУС грыф «сакрэтна». Прадпасылка ў духу тых часоў простая: ідэолагі беларускага нацыяналізму не маюць права на папулярызацыю ідэй. Таму, акрамя людзей, меўшых мандаты, да калекцыі нікога не дапускалі.

Цяпер з бязвыхаднасцю пакончана. Па рашэнню Галоўнага архіўнага ўпраўлення Беларусі матэрыялы былога музея сталі зноў агульнадаступнымі. Што ж утойвалі ад простых смертных за сямю пячаткамі?

Дакументаў аб дзейнасці палітычных партый, саюзаў, таварыстваў так званага нацыяналістычнага напрамку тут нямнога. У асноўным гэта галерэя партрэтаў вядомых у той час людзей, многім з якіх летапісцы савецкага перыяду не палічылі неабходным прысвяціць нават некалькі радкоў у энцыклапедыі. Так, нам практычна нічога не было вядома аб жыцці і дзейнасці Л. Дубяйкоўскага, П. Жыўрыда, Ю. Крэвера, Б. Церашкевіча, А. Трэпкі — палітычных дзеячаў і вучоных, якія мелі прамыя або ўскосныя адносіны да нацыяналістычных партый і саюзаў.

Трапіў пад «арышт» і этнаграфічны нарыс «Прамежкавая ступень паміж беларусамі і маларосамі», напісаны ў 1915 годзе беларускім вучоным В. Хлябцэвічам. Зрэшты, у даным выпадку сакрэтчыкаў можна зразумець: думка аўтара супярэчыла афіцыйнай трактоўцы гісторыі народаў, якія насялялі рэспубліку. Але якую крамолу неслі ў сабе «Дзіцячая чытанка» Якуба Коласа або групавое фота ўдзельнікаў украінскай капэлы ў Празе? Чым амаль стагоддзе былі небяспечнымі вершы Змітрака Бядулі, напісаныя ў 1903—1904 гадах? Якія сакрэты захоўвала заліковая кніжка беларускай паэтэсы Цёткі?..

Велізарную цікавасць для даследчыкаў маюць дакументы аб дзейнасці беларускіх выдавецтваў «Загляне сонца і ў наша аконца», «Мінчук», «Наша хата», «Наша ніва», іх перапіска з аўтарамі, сярод якіх — Максім Багдановіч, Алесь Бурбіс, Канстанцыя Буйло, Цішка Гартны. З перапіскі і асабістых дакументаў 1910—1923 гадоў уладальніка прыватнага выдавецтва А. Грыневіча можна даведацца нямала новага аб гісторыі беларускага зямляцтва ў Пецярбургу.

Да гэтага часу не былі вядомыя даследчыкам і падрабязнасці справы судовай палаты па абвінавачанню Канстанціна Міцкевіча (Я. Коласа), Івана Фёдарава (Я. Маўра) і групы настаўнікаў за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў 1906 годзе на Мікалаеўшчыне.

Што ж, трэба было б радавацца. Аднак архіварыусы настроены песімістычна: многія ўжо адкрытыя для свабоднага доступу фонды так і не прыцягнулі ўвагі вучоных. А шкада...

**С. КАЛІНКІНА.**

# АДБЫЛАСЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Мінску прайшла Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская народная харэаграфія: захаванне і шляхі развіцця». Былі прачытаны даклады навукоўцаў і дзеячаў культуры на даную тэму. Адбыўся фальклорны канцэрт. Канферэнцыю рыхтавалі Міністэрства культуры і Беларускі інстытут праблем культуры.

**Андрусь ВАШКЕВІЧ.**

БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

# «РОДНЫ КРАЙ»




Круціцца кола дзён, і кожны з іх знаходзіць сваё адлюстраванне ў календары. Колькі існуе чалавецтва, столькі існуюць і календары: ад найпрасцейшых зарубак на дрэве да сучасных, дзе сабраны шматвяковы вопыт народа, адлюстравана яго гісторыя і культура.

У мінулым годзе з'явіўся яшчэ адзін беларускі каляндар, адрыўны, які называецца «Родны край». Выйшаў ужо такі каляндар на 1992 год, здаецца ў набор каляндар на наступны год. Адрыўныя календары карыстаюцца звычайна ў продажы найбольшым попытам. Просяць яго прыслаць і нашы землякі, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. У гэтым кампактным невялікім выданні, як правіла, сабрана надзвычай многа карысных, неабходных у паўсядзённым жыцці, проста пазнавальных звестак. Не выключэнне і «Родны край» на 1992 год. У ім і астранамічныя даныя, і назіранні за прыродай, парады медыкаў, юрыстаў, педагогаў, нататкі мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, літаратараў аб помніках архітэктуры, значных гістарычных падзеях, выдатных дзеячах мастацтва, пісьменніках, апісанне народных свят і абрадаў, урыўкі з Бібліі на беларускай мове. У календары пазначаны найбольш важныя рэлігійныя святы, даецца тлумачэнне, адкуль прыйшлі яны да нас, з якой нагоды з'явіліся і ў гонар якой падзеі ці асобы святкуюцца. Нядаўна некаторыя рэлігійныя святы ўзаконены дзяржавай і будуць адзначацца ўсенародна. Мы разглядаем гэту падзею як вяртанне да вытокаў сваіх, да культурнай спадчыны, да захавання сваёй хрысціянскай існасці, якая на працягу дзесяцігоддзяў зневажалася і знаходзілася пад уціскам.

«Родны край» (1992) вельмі адрозніваецца ад усіх беларускіх календароў савецкага часу. Ну, напрыклад, хіба магчыма было раней уявіць каляндар без звестак пра партыйных і савецкіх дзеячаў, военачальнікаў, нават тых, якія мелі надзвычай далёкае дачыненне да Беларусі, без адзнакі рэвалюцыйных падзей! Зразумела, што з'яўленне календара супала з пачаткам свабоды друку, з нацыянальным адраджэннем. Але па ўсім відаць, што выданню пашанцавала і ў іншым сэнсе. Рыхтавалася яно з любоўю і клопатам людзьмі дасведчанымі і зацікаўленымі той справай, якую яны робяць. Творчую групу па выпуску календароў выдавецтва «Беларусь» узначальвае Алена Законнікава. Яна з удзячнасцю згадвае выдатных беларускіх навукоўцаў, людзей энцыклапедычных ведаў Янку Саламевіча і Генадзя Кахаоўскага, якія аказалі групе неацэнную творчую дапамогу. Я думаю, што ім самім вельмі прыдаўся той вопыт і веды, якія былі назапашаны вучонымі, калі выдавалі яны Беларускі літаратурна-мастацкі каляндар «Кола дзён».

Год толькі пачаўся, каляндар «Родны край» выйшаў з друку, але паспрабуйце знайсці яго дзе-небудзь у кнігарні ці кіёску. Ён быў у продажы ўсяго тры дні. А цяпер у рэдакцыю звоняць з Оршы, з іншых гарадоў, просяць паспрыяць набыць каляндар. Як я казала ўжо, ён патрэбны ўсім, яго ўсе хочуць мець, нават на беларускай мове, але прыгожыя, невялікага фармату кніжачкі даўно раскуплены. У мінулым годзе заказ ад кнігагандлю быў на 300 тысяч экземпляраў—выпусцілі ўсяго 26 тысяч, сёлета заказ застаўся ранейшым. Тыраж склаў 100 тысяч экземпляраў. Як і на многае добрае і патрэбнае, няма паперы, самай простай газетнай паперы, якая ніколі раней не была дэфіцытам. І друкаваўся каляндар, асабліва першы, з вялікімі цяжкасцямі. У выданні мала ілюстрацый, а тыя, што змешчаны, не вельмі добрай якасці. Усё наша беднасць. Не хапае грошай, калі гаворка ідзе аб культуры, аб нацыянальных выданнях, патрэбных масаваму чытачу. Хаця на сам каляндар цана ўсё расце і расце. Першы (1991) каштаваў 50 капеек, на 1992 год—2 рублі 50 капеек, а на наступны год цана ўзнімецца больш як у два разы. Вось тут і прапагандуй беларускую мову і культуру!

Многія нашы чытачы за мяжой, якія выказалі жаданне мець каляндар, атрымаюць яго. На жаль, з невялікім спазненнем. Астатнія будуць мець пра яго ўяўленне, чытаючы «Голас Радзімы». На апошняй старонцы газеты пад рубрыкай «Лісткі з календара» мы будзем штомесяц друкаваць асобныя нататкі з «Роднага краю».

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## НЯДЗЕЛЯ, 5 СТУДЗЕНЯ 1992 ГОДА

# АДАМ СТАНКЕВІЧ

Гэты чалавек быў каталіцкім святаром. Вось чаму на некалькі дзесяцігоддзяў з нашай гісторыі выпала цэлая старонка нацыянальна-вызваленчага руху ў дарэвалюцыйнай і міжваеннай Беларусі, пазначаная імем Адама Станкевіча.

Ён нарадзіўся 5.01.1892 года (н. ст.) у вёсцы Арляняты Ашмянскага павета ў сялянскай сям'і. Скончыў школу ў блізкіх Барунах і духоўную акадэмію ў Пецярбургу. 28 снежня 1914 года стаў святаром. Бадай, галоўны клопат усяго жыцця айца Адама—гэта перавод касцёлаў на Беларусі з польскай на родную мову, асвета народа. Першы ягоны допіс убачыў свет у «Нашай ніве» ў 1909 годзе. Пасля ён супрацоўнічаў у пецярбургскіх выданнях «Светач» і «Дзянніца». Нарэшце, на доўгія гады заснаваў уласную газету «Крыніца». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Адам Станкевіч—адзін з арганізатараў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, з 1922 года—пасол (дэпутат) Польскага сейма. Яго пяру належаць два дзесяткі кніг пра Вітаўта Вялікага, Скарыну, Батрыма, Каліноўскага, Багушэвіча, Эпімах-Шыпілу, Сваяка, Забэйду-Суміцкага, родную мову ў школах і касцёлах, беларускі нацыянальна-вызваленчы і хрысціянскі рух, а таксама вялікае мноства артыкулаў у газетах і часопісах. Пасля вайны Адам Станкевіч жыў у Вільні, далейшы ягоны лёс невядомы.

**С. ДУБАВЕЦ.**

# ГОРАД, ЯКІ ЗНІК У БЕЗДАНІ ЧАСУ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

ку чамусьці маўчаць. Што здарылася з ім, як ён знік, магчыма сёння толькі здагадвацца.

Калі ўглядзецца пільна ў карту Беларусі, то можна ўпэўніцца, што ўсе гарады ў тыя старажытныя часы ўзнікалі, як правіла, на водных шляхах. Так атрымалася і з заснаваннем Друцка. Яго пабудавалі ў пачатку валокі аднаго з адгалінаванняў дзвінскага шляху «з вараг у грэкі». Знаходзячыся ў сярэдзіне старажытнарускіх зямель, ды яшчэ на выгадным водным шляху, Друцк зрабіўся буйным месцам гандлю рабамі на Русі, куды прыганялі і прывозілі з розных княстваў нявольнікаў. Прычым, жанчыны на гэтым кірмашы каштавалі даражэй за мужчын.

Як выглядаў горад у тую пару? Ён быў абнесены валам вышынёй да 7 метраў, з поўначы яго акружаў роў глыбінёй 2 метры, з захаду і ўсходу к гораду прымыкаў рамесны пасад.

Як гаворыцца ў «Большой Советской Энциклопедии»: «Захаваліся рэшткі ўмацаванага дзяцінца і акольнага горада (былі абнесены валамі і равамі), а таксама сляды неўмацаванага пасада і курганнага некропаля».

Дзяцінец у горадзе Друцку займаў каля аднаго гектара, ён быў абнесены валам вышынёй 10 метраў, глыбіня рова была 2,5—3 метры.

Тут трэба зрабіць заўвагу к слову «дзяцінец». Гэта ўнутранае ўмацаванне ў рускіх гарадах той пары. Яно служыла прыкрыццём у выглядзе сцен і вежаў для княжацкіх рэзідэнцый і двара царкоўнага ўладыкі. Крыху пазней такія ўнутраныя ўмацаванні атрымалі назву «крамлёў». Сярод іншых старажытных гарадоў Друцк быў славуты і тым, што, як кажа запіс у «Друцкім Евангеллі», тут яшчэ ў 1001 годзе пабудавалі сабор. Узведзены ў першы год другога тысячагоддзя, ён з'явіўся самым старажытным хрысціянскім храмам не толькі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, але і наогул у Кіеўскай Русі.

Друцк быў таксама адметны добрай планіроўкай. Перакрыжаваныя вуліцы былі пераслаадзены дрэвам.

У дзяцінцы, акрамя княжацкай і рамеснай частак, была і гарадская плошча. Мабыць, на ёй і адбываўся бойкі гандаль нявольнікамі і нявольніцамі, ды і не толькі імі. Вядома, што тут было вельмі шмат здольных рамеснікаў і прадпрымальных гандляроў. За таварам і для абмену іх сюды па Дняпру і Заходняй Дзвіне прыязджалі купцы і гандляры не толькі з краін Заходняй Еўропы, але і з Візантыі, Прыбалтыкі... Друцк гандляваў з рускімі гарадамі Кіевам, Ноўгарадам, Смаленскам, Оўручам, Гродняй, Навагрудкам, Менскам, Туравам, Слуцкам, Чарнігавам і іншымі.

Цікавы і лёс прыналежнасці Друцка да розных старажытнарускіх земляў. Спачатку ён уваходзіў у склад Полацкага княства. Тут патрэбна ўдакладніць, што з 1159 па 1162 гады друцкі князь Рагвалод нават кіраваў магутным Полацкам. У канцы XII стагоддзя Друцк адышоў да Смаленска, а каля сярэдзіны XIII стагоддзя друцкая зямля ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у якім яшчэ доўгі час займала асаблівае і адметнае становішча. Уласныя друцкія князі правілі ў Друцку да 1508 года. Так што ён аніяк не мог загінуць ні ў канцы XIV стагоддзя, ні ў пачатку XV, як пішацца ў «Большой Советской Энциклопедии».

У пачатку XVI стагоддзя паступова, але няўхільна Друцк пачынае губляць сваё палітычнае і эканамічнае значэнне. Хто вінаваты ў такой з'яве? Гэта войны, якія, як тыя перуны, праносіліся па нашай шматпакутнай зямлі. Адны беларускія гарады, як Мінск, Гродна, Віцебск, Магілёў, мелі вялікія жыццёвыя сілы, пасля іх захопу, разбурэнняў, пажараў і іншых бедстваў яны зноўку адбудоўваліся і станавіліся яшчэ больш магутнымі і прыгожымі. Такія гарады, як Тураў, Навагрудак, Слуцк, Зэльва, гублялі сваю былую славу і значнасць і станавіліся глухімі куткамі. Трэція назаўсёды знікалі, адыходзілі ў нябыт, у бездань часу. І сярод іх такая горкая доля напаткала горад Друцк. Літоўска-рускія і руска-літоўскія войны 1506, 1514, 1524, 1535 гадоў спустошылі горад. На яго папялішча ўсё радзей і радзей вярталіся людзі, а неўзабаве ён і наогул перастаў існаваць.

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

# ПЕРШЫЯ МАРКІ

Распрацаваныя па ініцыятыве парламенцкай Камісіі па гісторыі культуры і захаванню гістарычнай спадчыны першыя беларускія паштовыя маркі перададзены для друкавання Дзяржзнаку Беларусі.

На адной з іх адлюстравана «Пагоня» — Дзяржаўны герб рэспублікі, на другой — бела-чырвона-белы сцяг на фоне геаграфічнай карты Беларусі. Аўтар іх — мастак Мікола Купава.

Будзе аддрукавана па дзесяць наміналў абедзьвюх марак, найбольшая цана —1 рубель або талер (гэта ўжо ў залежнасці ад грашовай адзінкі рэспублікі). Выпушчаны яны будуць у першым квартале наступіўшага года, тыраж — ад 1 да 3 мільёнаў кожнага наміналу.

Наступная серыя беларускіх марак будзе прысвечана помнікам дойлідства, архітэктуры, нацыянальным касцюмам.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**



Каралеўскага пітона, чарапах, варана, усялякіх яшчарак і іншых паўзуноў можна ўбачыць, наведаўшы выстаўку, што праходзіць у брэсцкім Палацы культуры аблсаўпрофа. Больш трыццаці відаў жывёл прадстаўлена тут, сярод якіх калекцыя ядавітых змей. Такая выстаўка праходзіць у Брэсце ўпершыню, і наведвельнікаў не злічыць.

НА ЗДЫМКУ: дзевяціакласнік брэсцкай СШ № 29 Максім БЫСТРОЎ ужо некалькі год вывучае звычкі паўзуноў. З каралеўскім пітонам Максім сумеў нават пасябраваць, бо ён прыходзіць на выстаўку штодзённа, дапамагаючы служыцелям даглядаць жывёлін.

Фота Э. КАБЯКА.

**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 15.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12